

Група комсамольцаў Беларускай плодагароднай вопытнай станцыі. Злева направа: Марыя Канапацкая, сакратар комсамольскай арганізацыі Юзэфа Канапацкая і Ніна Рак аглядаюць парнікі.

Фото А. Дзітлава.



Лепшы муляр-абліцоўшчык Мінскага будаўнічага ўпраўлення № 4 комсамолец Фёдар Меленчук.

Фото А. Дзітлава.



Народны артыст БССР Р. Р. Шырма з групай маладых салістаў хора.

Фото А. Дзітлава.



**«Першая мадэль».**
Фото А. Дзітлава.



Разліў металу ў ліцейным цэху Мінскага станкабудаўнічага завода імя Варашылава.

Фото Л. Матусевіча. (Фотахроніка БЕЛТА.)



На параходзе, які робіць рэгулярныя рэйсы паміж Віцебскам і Веліжам, працуе адзін з лепшых качагараў параходства Аляксей Рыжыкаў. На здымку: Аляксей Рыжыкаў пасля вахты.

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
№ 6(15).
Чэрвень.
1954.

# Новая сіла



1

А. АСІПЕНКА, А. ДЗІТЛАЎ

Рэпартаж нашых спецыяльных карэспандэнтаў

У сярэдзіне лета, калі ў парку зацвітуць духмяным цветам ліпы, Віцебскі ветэрынарны інстытут будзе накіроўваць на работу сто сорак шэсць сваіх выхаванцаў, урачоў 27-га выпуску. Сябры-аднакурснікі, якія ўсе пяць год вучобы нястрымна імкнуліся да ведаў, дружна штурмавалі навуку, якіх здружылі поспехі і няўдачы, дні лабараторных заняткаў і бяссонныя перадэкзаменацыйныя ночы, будуць працаваць у розных кутках Радзімы.

Кожны будучы ўрач — гэта найкаштоўнейшы скарб для нашых калгасаў, бо ад яго ў значнай меры будзе залежаць рост прадукцыйнасці грамадскай жывёлы, а значыць, і рост добрабыту народаў нашай краіны. Але каб стаць такім скарбам, каб прыносіць адчувальную, прыкметную карысць, неабходна ўзброіцца трывалымі і глыбокімі ведамі. Гэта добра разумее кожны студэнт, які сапраўды хоча ўнесці свой пасільны ўклад у развіццё сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Мы наведалі Віцебскі ветэрынарны інстытут. З фотаздымкаў, якія змешчаны на старонках часопіса, яскрава відаць, як напружана працуе студэнцкі калектыў у гэтыя дні.

Вераснёўскі Пленум ЦК КПСС намеціў велічную праграму далейшага ўздыму жывёлагадоўлі ў нашай краіне. Без ведаў, без навукі рашыць гэтую задачу немагчыма. Вось чаму на сяло паехалі тысячы высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія дапамагаюць калгаснікам павышаць прадукцыйнасць жывёлагадоўлі па строга навуковай сістэме. 146 выпускнікоў ветэрынарнага інстытута — гэта новы атрад, які неўзабаве папоўніць дружную армію барацьбітоў за росквіт сельскай гаспадаркі.

А пакуль ідуць апошнія дні вучобы.

1 Галоўны корпус інстытута. Тут трыццаць год назад распачалі вучобу першыя студэнты. За 26 выпускаў, якія адбыліся з таго часу, інстытут даў краіне 1819 ветэрынарных урачоў і 241 зоатэхніка з вышэйшай адукацыяй.

У інстытуце працуе 5 дактароў навук, 31 дацэнт, 52 асістэнты і выкладчыкі. Тут было распрацавана і абаронена 8 доктарскіх і 18 кандыдацкіх дысертацый. Распрацоўваецца яшчэ 7 доктарскіх і 12 кандыдацкіх дысертацый. Інстытут выпусціў 13 тамоў вучоных запісак, у якіх апублікавана 259 навуковых работ. Многія работы напісаны студэнтамі і маюць вялікую практычную каштоўнасць.

Былыя выпускнікі інстытута зараз вядуць кафедры ў Маскоўскім, Кіеўскім, Алма-Ацінскім і іншых ВНУ краіны.

2 Гэта — хірургічны корпус, больш дакладна, адна з лабараторый у ім. Направа ад дзвярэй лабараторыі — вялікі пакой з цэментавай падлогай. Там студэнты праходзяць практычны курс хірургіі: лечаць жывёлу, робяць аперацыі, перавязкі. Студэнты-пяцікурснікі Аркадзь Валюжэніч і Аляксандр Наздрачоў нядаўна закончылі лячэнне сваіх чатырохногіх пацыентаў і яшчэ раз праглядаюць гісторыю хваробы. Гісторыя хваробы акуратна афармлена, ёсць многа замалёвак, цікавых назіранняў. Нездарма на ёй стаіць ацэнка «выдатна».

— Быў я на практыцы ў горадзе Молатаве, — расказвае Аляксандр Наздрачоў. — Дасканала вывучыў там работу рэнтгенаўскага і фізіятэрапеўтычнага кабінетаў. Зараз еду працаваць на сяло. Абавязкова арганізую там фізіятэрапеўтычны кабінет, а затым і рэнтген. Цяпер без гэтага працаваць цяжка.

Так усесаюзны вопыт пераносіцца ў нашы калгасы. Яго распаўсюджваюць цяперашнія студэнты, якія раней творча адносіліся да сваёй вучобы.

3 Ветэрынарны ўрач — урач шырокага профілю. Ён павінен дасканала ведаць хваробу любой жывёлы, умець не толькі, паставіўшы дыягназ, выпісаць лякарства, але і сам зрабіць яго. Гэта — універсальны ўрач: ён і тэрапеўт, і хірург, і эпідэміёлаг, і рэнтгенолаг, і фармацэўт. Вось, напрыклад, Уладзімір Чайкоўскі, сын слонімскага калгасніка. Праз нейкі час ён стане дыпламаваным ветэрынарным урачом. Уладзімір глыбока засвоіў курс навук. Мы засталі яго ў аптэцы, за падрыхтоўкай лякарства па ўласнаму рацэпту.



3



2

4 Яўген Рыгоравіч Стэфкін закончыў інстытут чатыры гады назад. Працаваў асістэнтам на кафедры акушэрства. Адразу пасля вераснёўскага Пленума ЦК КПСС Яўген Рыгоравіч цвёрда вырашыў: яго месца — у калгасе.

— А як-жа твая дысертацыя? — пыталіся ў яго таварышы.

— Дысертацыя мая будзе мець практычнае значэнне, і працаваць над ёй трэба там, дзе ёсць вялікі практычны матэрыял.

Цяпер Яўген Рыгоравіч працуе ветэрынарным урачом Сялюцкай МТС Віцебскага раёна. Але ён часты госць у бібліятэцы інстытута. У былога выпускніка «не закрыты абанемент». На абанеменце запісаны кнігі па спецыяльных дысцыплінах, кнігі класікаў марксізма-ленінізма, мастацкая літаратура. Здзіўляешся, колькі прачытаў Яўген Рыгоравіч. І калі толькі паспявае чалавек! Трэба-ж пабываць і ў калгасах сваёй зоны, і правесці прафілактычныя мерапрыемствы на фермах, і працаваць над дысертацыяй!

Трымае сувязь з інстытутам не адзін Стэфкін. Нядаўна сюды прыехаў ветэрынарны ўрач Задзвінскай МТС Суражскага раёна. Ён выявіў у курэй новае захворванне, якое ўзбуджаецца адным з відаў паразітаў. Пра свае назіранні ён расказаў студэнтам. Тут вельмі важна, што ветэрынарны ўрач — гэта не проста лекар, а дапытлівы вучоны-спецыяліст.

Тыя-ж, хто не могуць прыехаць, пішуць пісьмы. Нам паказалі інстытуцкую пошту. Гэта вялізная кіпа розных колераў канвертаў і паштовак. Нядаўна адзін з былых выпускнікоў прыслаў пісьмо, у якім раіў студэнтам ветэрынарнага факультэта вывучаць сельскагаспадарчыя машыны. У праграме такой дысцыпліны няма. Дырэкцыя вывучыла магчымасці і ўвяла на пятым курсе новы прадмет — механізацыя сельскай гаспадаркі.


4


6


5

5 Гэты здымак зроблены ў калгасе імя Варашылава Сялюцкага сельсовета Віцебскага раёна. Студэнты пятага курса прыехалі праводзіць дыягнастычнае даследаванне жывёлы. Даследаванне вядуць студэнты Тацяна Крэстоўская і Валянцін Маскалёў. Кіруе іх работай загадчык кафедры эпізаатологіі дацэнт Васіль Фёдаравіч Пятроў. За даследаваннем наглядае старшы ветурач Сялюцкай МТС Я. Р. Стэфкін.

6 Ларыса Карташова пасля заканчэння інстытута едзе ў Драгічанскі раён Брэсцкай вобласці. А пакуль яна настойліва авалодвае ведамі. Драгічанскія калгаснікі могуць ганарыцца: да іх на работу прыедзе адна з лепшых студэнтак 27-га выпуску ветэрынарнага інстытута!

7 Кабінет дырэктара Інстытута прафесара, доктара сельскагаспадарчых навук В. Ф. Лемеша. Сюды прышлі прафесар, доктар ветэрынарных навук заслужаны дзеяч навукі БССР І. Я. Дземідзенка (стаіць) і сакратар партыйнай арганізацыі інстытута дацэнт Н. Г. Сіпко. На прыёме дзве маладыя сям'і: Сенькоўскія і Івановы (злева). У іх да дырэкцыі ёсць толькі адна просьба: пасланць на работу і мужа і жонку ў адзін раён.

Не хвалюйцеся, таварышы, усё будзе ў парадку. Івановы едуць у Брэст, Сенькоўскія — у Гомель.



8 Сельская гаспадарка аснашчона цяпер багатай айчыннай тэхнікай. Ветэрынарны ўрач павінен не толькі ўмець лячыць жывёлу, але і ведаць тыя машыны, якія абслугоўваюць жывёлагадоўлю. Часта захворванні выклікаюцца тым, што, напрыклад, дрэнна быў прыгатаваны корм машынай. А машына дрэнна прыгатавала корм таму, што была сапсавана. Усё гэта ўрачу трэба ўлічваць у практычнай дзейнасці. Вось чаму на пятым курсе ўведзены заняткі па механізацыі. Вядзе іх кандыдат тэхнічных навук дацэнт А. А. Крашанінnікаў.



9 Хвалююцца перад дзяржаўнымі экзаменамі не толькі выпускнікі, але і студэнты астатніх чатырох курсаў. Ім-жа таксама прыдзецца некалі трымаць экзамены. Ідучы насустрач пажаданням студэнтаў, рэдкалегія інстытуцкай газеты выпрашыла выпусціць спецыяльны нумар насценгазеты, прысвечаны выпускнікам.



10 Ветурач павінен быць вынослівы, спрытны, такі, якой з'яўляецца адна з лепшых спартсменак інстытута выпускніца Раіса Шаталава. А што Раіса не адзіная спартсменка на пятым курсе, яскрава гаворыць кубак, які пяты курс заваяваў па лёгкай атлетыцы.

11 Хутка ў дарогу. Трэба-ж своечасова сабраць рэчы. А іх назбіралася за пяць год нямала. Уладзімір Іваноў і Юля Іванова ў час збораў.

Прафесія ветэрынарнага ўрача — пачэсная прафесія. Усе 146 выпускнікоў Віцебскага ветэрынарнага інстытута, якія сёлета прыедуць у калгасы, МТС і соўгасы краіны, будуць з поспехам прымяняць свае веды на практыцы, садзейнічаць далейшаму ўздыму сельскай гаспадаркі. У добры шлях, таварышы! Плённай работы чакае ад вас народ!








# РАЗЛАД

Ігнат ДУБРОЎСКІ

Апавяданне

Мал. Я. Ціхановіча.

Захар думаў, што ўсё пачалося з гэтай дзівацкай машыны з драўлянай абшыўкай. А Міля, калі выходзіла замуж за яго, зусім не думала, што ёсць дрэнныя і добрыя работы, што ёсць работы, якіх трэба цурацца, якія ганьбяць чалавека, і ёсць пачэсныя. Яна была звеннявой, Захар — загадчыкам пункта сувязі пры сельсовеце. Міля сеяла лён, вырошчвала валакно, на якое па восені на абласной выстаўцы дзівіліся ўсе ільнаводы. Захар штодзённа ездзіў на фурманцы ў раён, прывозіў пошту. Па брыгадах пошту разносіла Зіначка Апёнак, маленькая, кругленькая, як клубочак. Ускіне на плечы сумку, набітую газетамі, і подбегам — з двара ў двор. А колькасць падпісчыкаў расла, прыбаўлялася часопісаў, і Зіначка стала рабіць два захады штодзень. Міля адчувала сорам, што Зіначка, яе сяброўка, пацее, а Захар сядзіць сабе ў канторы, выглядае праз акно, як шпак са шпакоўні, нібы сумуе цэлы дзень.

— Захар, ты-б ёй хоць дапамог.

— Я — газеты разносіць?! — здзівіўся ён. — Гэта не мая справа. Я — загадчык, — з гонарам падкрэсліў Захар.

Нейчымі клопатамі была заўважана Зіначка там, у цэнтры, і Веснінскаму пункту сувязі запланавалі паштовую машыну. Што гэта за машына, ні Зіначка, ні Захар не ўяўлялі і ні разу не бачылі. Калі Захару раённы аддзел сувязі прапанаваў ехаць на курсы шафёраў, ён паморшчыўся і грэбліва адказаў:

— Я — шафёрам?!

Паехала Зіначка, нават з ахвотай. З гэтага часу Міля пачала інакш прыглядацца да Захара. Чаму ён адмовіўся стаць шафёрам? Цураецца простай работы? Сумны роздум гэты рос і часцей стрымліваў песню, смех яшчэ і таму, што Захар прапанаваў ёй кінуць брудную работу ў полі, пайсці ну хоць-бы ў дзіцячы сад, — «і то ўжо будзеш выглядаць палюдску».

Мілі крыўдна было чуць гэта. Але найбольшая крыўда была зроблена ў той непагодлівы асенні дзень, калі Міля падымала лён. Пераходамі гнаў вецер хмары па небе, пераходамі ішоў непатрэбны халодны дождж. Нагоніць вецер злосную чорную хмару, секане балюча па голых руках і ў твар халодны з ветрам дождж ды зноў выпагадзіцца, гляне на поўгадзіны астыўшае асенняе сонца. Калі надыходзіць вялікая хмара, дзяўчаты бягуць па дарожку, кучкамі збіваюцца, галаву да галавы, як снапы ў бабках, прыкрываючыся чыім-небудзь жакетам зверху. А калі хмарка наплывае невялічкая, Міля не разгінаецца, і ўсе, гледзячы на звеннявую, трывала пераносяць дождж і непагоду. Нялоўка бегчы, калі звеннявая працуе! Трэба падымаць лён; на дзень прапусціш — пералежыць, пасівее, будзе касмаціцца кужаль і будзеш на выстаўцы на чужы зайздросціць.

Спрытна ходзяць у Мілі рукі, шэрая палоска трасты звіваецца ў пульхную кіту. Яна ставіць яе на зямлю, сціскае ўгары, робячы пірамідку, каб лепш сцякала вада. Амаль не разгінаючыся, Міля ідзе бокам, ставячы адну пірамідку за другою. Ззаду застаецца дарожка пажоўклай травы. Дождж сячэ, і сэрца сціскаецца болем ад думак аб Захару.

У перапынак на абед Міля прыбегла дамоў, каб падаць Захару папалуднаваць, падсілкавацца самой. Ён ужо сядзеў за сталом, нездаволены, пануры, з навісшым над ілбом чорным чубам.

— Чаго ты, Захар, раскіс нешта? — папрабавала весела загаварыць Міля.

— Больш на пошце не працую. Скарацілі. Зіначка будзе адна.

Міля ведала, што Зіначка з курсаў прыехала на маленькай з дашчаным кузавам машыне. Яна бачыла гэту смешную дзівацкую машыну. Механік МТС, былы матрос Тодар Барсук, востры на язык, назваў яе паходным буфетам.

— Каму марожанае! — выкрыкнуў ён, барабанячы па драўляных клёпках кузава.

— Федзя! — прытупнула ножкай Зіначка.— Я цябе зараз замарожу! — пасварылася яна, але, ласкава кальнуўшы вачыма, усміхнулася.

Захар тады радаваўся. Добра, што не пайшоў на курсы, цяпер-бы над ім усе насміхаліся. Марожаншчык! І ён нават папракнуў Мілю, якая ўгаварвала, каб ехаў вучыцца на шафёра. Пры гэтым важна падкрэсліў, што ў яго на ўсё хапае розуму.

Зіначка не бянтэжылася выглядам машыны. Ездзіла штодзённа ў раён, развозіла пошту па брыгадах і школах сама, а Захар днямі тырчэў у акне канторы. Непатрэбнасць яго пасады стала відавочнай: Зіначка засталася і загадчыкам і паштавозам.

— Ты не хвалюйся, Захар, — угаварвала Міля, накрываючы белым абрусам стол. — У калгасе работы шмат. Хоць манцёрам, а хоць...

— Я — у калгас? Манцёрам? — рэзка перапыніў Захар і ўстаў. — У горад паедзем,—сказаў ён, нібы гэта было вырашана канчаткова.

— У горад? Захар! — і рукі Мілі спыніліся, прыціскаючы белы абрус да грудзей. — Кінуць лён, кінуць усю работу...

— Работу!? Зірні на свае граблі. Хутка ўся заскарузнеш.

Міля зірнула на свае сінявата-барвовыя ад холаду рукі, і вочы ад крыўды заслаў туман. Няўжо за свае рукі яна варта пагарды? Рукі, якія так старанна вырошчваюць лён, даюць радзіме сваёй шаўкавісты кужаль, што сагрэў не адно дзіця і можа не раз быў прыкладзены да раны, выратаваў жыццё... І за гэта ганьбаваць... Ганьба ад самага блізкага чалавека, ад таго, каго абдымалі гэтыя патрэсканыя рукі...

Захар моўчкі нахіліўся над талеркай і часта сёрбаў, а Міля, адышоўшыся, каб не выдаць сваёй слабасці, барабанячы пасудай, непрыкметна фартухом выцірала слёзы.

Скрыпнулі дзверы, і Тодар Барсук, угінаючыся, каб не стукнуцца ілбом аб вушак, яшчэ не пераступіўшы парога, закрычаў:

— Здаровы былі, маладажоны! Хлеб-соль!

Ёмка ступаючы ботамі па чыстай падлозе, ён зняў бесказырку, кінуў на падаконнік і сеў на невялічкі сундук ля стала.

— Прысаджвайся сюды, Федзя. Хочаш? — гасцінна прапанавала Міля.

— Талерачку гарачага — з ахвотай. Нордвест! Сівер на дварэ! — ён хуценька пацёр рукі, сеў за стол, падцягнуў талерку пад самы нос і, сёрбаючы, хваліў:

— Рукі ў цябе, Міля, залатыя! За што ні возьмешся — усё на радасць. І лянок на ўсю акругу, і абед — такога і наш карабельны кок не мог згатаваць.

Акуратненька апаражніўшы талерку, адсунуў яе і прычмокнуў:

— Мц, ах, і смачна!

— Яшчэ? — спытала Міля.

— Давай! — мякка шлёпнуў ён далоняй аб стол.

Пасля другой талеркі Тодар звярнуўся да гаспадара:

— Ну, Захарка, злазь з жончынага карку! Паедзем на курсы камбайнераў. Вось спіс. Праўленне калгаса рэкамендуе.

— Я — камбайнерам? Я ў калгасе ні аднаго працадня не выбрабіў, праўленне не можа мной камандаваць.

— Фу-у, брат. З гонарам! Глядзі, Захар, не надта фанабэрся, ахвотнікаў шмат.

— Захар, адумайся і едзь. Гэта-ж такая справа! — упрошвала Міля.

— Сказаў: не паеду! У горад паедзем, — і ён павярнуўся бокам, гледзячы ў акно.

— А я ў горад не паеду. Упікаеш мяне гэтымі рукамі, — Міля выставіла рукі, — зрабі, каб ім лягчэй было. Ідзі, можа, камбайнам лён убіраць будзеш.

— Не пайду. Я — інтэлігентнай спецыяльнасці...

— Захар! Ганарышся? А што ты можаш? У тэхнікум паступаў — не прынялі. Электраманцёрам — не хочаш, камбайнерам — не хочаш. Цураешся простай работы...

— Міля, а ты яму збі гонар. Сама ідзі, — быццам у жарт сказаў Барсук. Але трапіў пад настрой Мілі. Яна і сама хацела учыніць штонебудзь насуперак Захару, каб збіць яго пусты гонар, адказаць на яго абразу.

— І пайду! І я маю гонар! Камбайнам буду ўбіраць лён. Людзі дзякуй скажуць. Пішы, Федзя.

Трошкі збянтэжаны разладам маладых, Тодар пастараўся хутчэй націснуць шапку ды развітацца, сказаўшы, што загляне пазней. А Захар заявіў Мілі: калі пойдзе на курсы, го няхай тады да яго не прыходзіць зусім.

Міля ўсё-ж пайшла на курсы. А Захара ў калгасе прыпёрлі з работай. Жыў ён з Міляй асобна ад бацькоў — на другой палавіне. Цяпер застаўся адзін, сам сабе гаспадар. Маці зноў узяла свайго пестунка да сябе, прыгарнула пад свае крыльцы. Не надта ахвочая да работы сама, хацела, каб сын вырас беларучкай. Убівала яму ў галаву, што ён здатны не на «простую» работу. І ў хатняй гаспадарцы яна не давала сыну дакрануцца рукамі да «простых» работ. Ехаць у горад без Мілі маці не параіла. Захар чакаў, што Міля вернецца, спадзяваўся на жаночую яе схільнасць да згоды.

Міля, глыбока пакрыўджаная, не вярталася, а старшыня патрабаваў, насядаў на Захара, каб ішоў на работу, запісаў яго ў брыгаду нарыхтоўшчыкаў лесу. Тады Захар кінуўся шукаць сабе службы. Абышоў усе ўстановы сельсовета, амаль кожны дзень ездзіў у раён, каб дзе знайсці «інтэлігентную» пасаду. Але нідзе адпаведнай работы не было. Усюды скарачалі штаты, людзі імкнуліся ў МТС, у калгасы, на сельскагаспадарчыя работы. Трапіў, нарэшце, Захар без вялікай надзеі на ветпункт да ветэрынарнага фельчара Фабіяна Сцяпанавіча Лося. Сухенькі Фабіян Сцяпанавіч паглядзеў паверх жалезных акуляраў на маладога, акуратна апранутага хлопца з роўненькім, як пад лінейку, праборам на галаве і пацiснуў вострымі плячыма:

— Работа ёсць, чалавек да зарэзу патрэбен, — чыркнуў фельчар пальцам па сваім тонкім горле, — але не для маладога хлопца.

— Якая?

— Мікіта Карпенка, ну, прыбіральшчык, адправіўся. Парнікі ў калгасе закладваюць, а ён — стары гароднік. Няхай ідзе. Дык вось — прыбіральшчык, — растлумачыў Фабіян Сцяпанавіч і склаў сухія губы гармонічкам. — Але тут і старая кабета змагла-б.

Захар задумаўся. У горад? Тады з Міляй усё... І адчуваў, што не зможа гэтага зрабіць. Ён кахаў Мілю, хацеў ёй лепшага, хацеў, каб лёгка жылося, як маці жадала яму, а яна пакрыўдзілася, не зразумела. А можа вінават Тодар, падгаварыў? Але-ж ён штовечар прападае ў Зінкі. Не, трэба пачакаць з горадам, можа, адумаецца. Але-ж без работы не дадуць сядзець у калгасе. Заўтра старшыня можа паслаць у лес. За сваё жыццё Захар быў у лесе разы са два з бацькам. Холадна, за каўнер сыплецца снег, набіваецца ў боты. І ён ледзь стрымаўся, каб не здрыгануцца.

— Ну... другой пасады, ну, ветсанітара можа... няма?

— Штат такі, на дзве асобы, — сашчапіўшы пальцы, рудыя ад ёду, як смалячкі, і касавурачыся паверх акуляраў на Захара, нібы гуляючы з дзіцём у «букі-букі», адказаў фельчар.

— А ці нельга... Фабіян Сцяпанавіч, так... ну, перарабіць?..

— Як гэта?

На шчоках Захара выступілі густыя чырвоныя, як змазаныя карболаўкай, два кругі. Ён натужыўся, каб перамагчы свой сорам, і вымучыў:

— Замест прыбіральшчыка... паставіць у загадзе... ну, ветсанітар... Вам-жа ўсё роўна.

Сухі, тонкі Фабіян Сцяпанавіч устаў са скрыпучай табурэткі, закінуў рукі за спіну, захадзіў па няроўнай, сукаватай падлозе. Павярнуўшыся да Захара, адказаў:

— Хоць каралём пішыся, абы ў ізалятарах было чыста, — і падсунуў яму паперу. — Пішы сам.

Толькі аднаму Захару ведаць, што перажыў ён у першыя дні, калі ўзяўся за мятлу і савочак! Даведаецца Міля, даведаюцца ўсе — асмяюць. Але стары фельчар добры, ён раскажа ўсім, што Захар не прыбіральшчык, а ветсанітар. А гэта ўсё-ж пасада, чын, маючы які, можна ставіць сябе вышэй за іншых.

Захар набыў белы халат, прышыў на левым рукаве чырвоны крыж і думаў гэтым прыкрыць свой не зусім сумленны ўчынак. Усюды, дзе мог, пісаўся ветсанітарам. Загад, напісаны ўласнай рукой і знарок вялікімі літарамі, ён вывесіў на дзвярах аптэчкі, на варотах ізалятараў, на веснічках і копію яго накіраваў у праўленне калгаса з адносінай, што Захар Буднік з сённяшняга дня працуе ветсанітарам, каб больш яго не турбавалі.

Ён тут часова. Гэта толькі пазіцыі, каб вытрымаць характар, дабіцца прымірэння з Міляй, і тады ў горад. Ён ведаў, як кахала яго Міля, і ўпэўнены быў, што сваёй упартасцю скрушыць непакорнасць маладой жонкі, і яна прыйдзе да яго.

Праз некаторы час Захар пераканаўся, што пазіцыя, занятая ім, яшчэ горш сапсавала справу. Час ішоў, Міля скончыла курсы, працавала з вясны на трактары «У-2», а з пачаткам жніва кіравала камбайнам. І ён пераканаўся, што Міля адыходзіць ад яго ўсё далей і далей. Паступова ім апаноўваў страх, што Міля будзе страчана назаўсёды.

Зіначка штодзённа спыняла каля варот ветпункта нізенькую дашчаную машыну, прыносіла газеты і розныя дырэктывы. Праз яе і імкнуўся Захар даведацца аб настроі Мілі.

— Ого, наша Міля! Ды перад ёй усе шапкі здымаюць, сустракаюць з нізкім паклонам. Песню нібыта пра яе нейкі кампазітар склаў. Амаль за сто жней за дзень адна выжынае! — акругляючы маленькія сінія вочкі, са строгай важнасцю паведамляла Зіначка, нагаНяючы на Захара скруху, наводзячы на горкі роздум.

Аднойчы, у самае жніво, Зіначка спыніла паштовую машыну каля ветпункта і так спрытна ўбегла праз веснічкі, што ў кожным яе руху адчувалася вялікая радасць. Яна сунула газеты ў рукі Захару і сказала:

— Зірні, Міля тут. Памізарнела, бач, спакутвалася па табе. Ішоў-бы ты на мір.

Захар разгарнуў газету і на першай старонцы ўбачыў камбайн, за штурвалам — дзяўчына, а ўгары фотаздымак, у кружочку партрэт Мілі. Задуменная, сумнаватая і яшчэ больш прыгожая, чым раней. На твары яго адбіўся смутак.

— Яна вінаватая — няхай і прыходзіць. Я? Не, не пайду. Цяпер не патрапіш, з якога боку падыйсці, — адказаў ён і з прытворнай абыякавасцю кінуў газеты на лаўку.



— Цяпер яшчэ не позна, а з часам можа і не падыйдзеш, — адказала Зіначка і павярнулася са двара.

Калі яна стукнула дзверцамі машыны і знікла за вуглом, Захар зноў узяў газету. Міля глядзела на яго з дакорам і сумам. І разам з гэтым у глыбіні такіх знаёмых яму вачэй была затоена радасць. Захар падумаў, што калі рабілі здымак, яна бадай што думала аб ім, была ўпэўнена, што ён убачыць фото, адчуе яе дакор, зразумее свае памылкі, вернецца. Так і здавалася, што яна кліча яго.

Неахвотна ўзяў ён мятлу на доўгім кіі і савочак, сабраўся ісці чысціць ізалятары, але пачуў гукі гармоніка і спыніўся, прыслухоўваючыся. Да музыкі прымяшалася ціхае вуркатанне матора. Гукі нарасталі, плылі, рэхам напаўняючы двор ветпункта. Тут-жа з-за вугла выехаў самаходны камбайн. За штурвалам сядзела Міля ў белай касынцы, у блакітнай кофце з голымі да локцяў рукамі. На поўных, круглых шчоках ляжаў густы загар. Яна спакойна вяла камбайн па вуліцы. Убачыўшы Захара з мятлою, яна здрыганулася, сумна ўсміхнулася і заклапочана нахілілася над штурвалам. За плячыма Мілі ў адной паласатай цяльняшцы стаяў Тодар і заўзята расцягваў мяхі гармоніка. Відаць, пераязджалі на другі ўчастак. Убачыўшы Захара, Тодар сціснуў гармонік, узмахнуў рукой і крыкнуў:

— Прывітанне ветфронту! Палундра! Дзеркачы нагала!

Не паспеў апамятацца Захар, як усё знікла. Толькі ў вачах стаяла Міля ў белай высока завязанай касынцы ды блакітнай, як вясновае неба, кофце. Лёгкі ветрык варушыць каштанавыя валасы над загарэлым ілбом. Побач — Тодар, паласаты, як зебра, у саламяным капелюшы. А ў вушах — сцішаны рокат матора і крык: «Палундра!» Усё гэта віхрам праляцела, пранеслася ля варот, нібы дзеля таго, каб знарок пасмяяцца над ім. Захар павярнуўся, хацеў ісці да ізалятара, і раптам з-за плоту пачуў хлапчуковы голас: «Палундра!», дружны рогат і заціхаючы тупат босых дзіцячых ног. Дворык ветпункта здаўся яму тупіком, у які трапіў ён са сваёй фанабэрыяй. На момант ён адчуў, што страчана выйсце. Ён пастаяў, азірнуўся наўкол і кінуў пад сцяну мятлу і савок.

Міля таксама была ўражана нечаканым відовішчам. Пераехаўшы на другі ўчастак, наладжвала камбайн, старалася не думаць і забыць тое, што бачыла, але ўвесь час перад ёй стаяў Захар у белым халаце, з чырвоным крыжам на рукаве, з мятлою, як тычкай, дзяржаннем уніз. Было і крыўдна, і сорамна, і прыкра. Яна не слухала жартаў Тодара, які круціўся каля камбайна, ляскаючы ключом, не адгукалася. Ёй хацелася абрэзаць гэтага, не да часу, вясёлуна. Чаму ён абразіў Захара?

Яна працавала, а ў вачах туманілася. Як было добра тады... Пачалося з сяброўства яшчэ ў школе. І пасля гэтак дружна пражылі амаль год. Першыя дні ён быў і ласкавы, і добры. Але пагардлівыя адносіны яго да работы, пра якія яна даведалася пазней, пажаніўшыся, неяк знізілі яго. Ды чаго ў каго не бывае... Гэта можна дараваць. Але абразу за яе рукі... не, гэтага яна не даруе ніколі, калі ён не зразумее, не папросіць прабачэння, не пераменіцца сам. Насміхаўся, а сам з мятлою...

— Мілечка, сюды на хвіліну, — паклікаў яе Тодар з другога боку камбайна, — дапамажы.

Міля падышла, узяла з рук Тодара разваднны ключ і спытала:

— Чаму ты, скажы, насміхаешся над ім?

— Хіба гэта насміханне? Мілечка, хацеў дапячы яго. Ты думаеш пяшчотамі яго кранушь? Сум твой, слёзы дапамогуць? Будзь больш рашучай, — і Тодар выставіў моцна сціснутыя кулакі, сурова звёў бровы, паказваючы меру рашучасці.

З-за камбайна вышла Зіначка з газетамі. Улетку яна заўсёды пошту развозіла на месца работы. Убачыўшы Зіначку, Міля зноў спахмурнела.

— Мілечка, глядзі, якая ты! Зірнуў на цябе Захар — і засумаваў... Чым ты пакрыўджаная? — раптам спытала яна, кінуўшы позірк на твар сяброўкі.

Выслухаўшы Мілю, Зіначка накінулася на Тодара:

— Заўсёды ты недарэчы слова ўставіш... Ладзіцца пачало, а ты... Во, глядзіце, — яна разгарнула газету з партрэтам Мілі.

— Зінуся, блазнотка мая, можа я ім жыццё навек наладзіў. Цяпер Міля во, бачыш! — ён узяў газету з партрэтам Мілі. — А ён — з дзеркачом. Прыдзе, прыбяжыць, Мілечка, не здавайся!

На суровым твары Мілі, на сцятых вуснах абуджалася шчаслівая ўсмешка.

Узышоўшы на мосцік камбайна, Міля супакоілася. Яна любіла гэтую работу. Сама калісьці жала сярпом, рвала лён, церла яго і перажыла шмат радасці, але такой асалоды ў працы не адчувала, як цяпер. Машына лёгка плыве па полі, сакоча матор, шастаюць каласы, хваляй кладуцца на транспарцёр. На згібах саломінак паблісковаюць праменні гарачага сонца і, здаецца, разам са сцяблінкамі яны плывуць у камбайн і адтуль важкім зернем сыплюцца ў бункер.

Зіначка стаіць побач з Міляй, маленькая, з расчасанымі лёгкім ветрыкам валасамі, і ўгаварвае яе:

— Ты павінна да яго пайсці. Сумуе. Ты не слухай Тодара. Ты вунь як узнялася. Камбайнер на ўсю рэспубліку. Ён можа не адважыцца. Ох, і гора мы набярэмся з гэтымі мужчынамі...

— Не ведаю, Зіначка, ці змагу. Як успомню, што ён сказаў пра мае рукі...

— Трэба ўмець і крыўду забываць, — мудра, па-старэчаму раіла Зіначка.

Міля хацела пярэчыць, што тут не простая крыўда, не абраза адной яе, а нешта большае балюча кранула душу. Але што гэта большае, якое зрабіла Захара ёй чужым, — вызначыць словамі не магла. Толькі ведала: праз гэта самае не зможа пайсці да Захара. Да душы ёй больш прышліся словы Тодара: трэба мець гонар.

«А каб прышоў ён... каб зразумеў... Як было-б добра... Змог-бы спачатку на саломакапніцелі. Тут зусім проста...» — думала Міля.



Н. ГІЛЕВІЧ

## Вяселле

Больш не «горка» гасцям,
Нават мёду не п'юць,
Хісткім крокам ідуць да парога,
І на вуліцы хлопцы ўжо змову вядуць,
Як-бы выкуп сарваць з маладога.

Што той выкуп!
Мяне ён не так абабраў!
І цяпер ля нявесцінай хаты
Намагаюся я, каб не выдаць сябрам
Гэты боль, гэты смутак утраты.

Што той выкуп!
Каб я прыязджаў так за ёй —
Пэўна быў-бы на большае здольны:
Я сабраў-бы гасцей тут з Лагойшчыны ўсёй,
Гаманіў-бы ўвесь люд навакольны!..

Падуладны пачуццю душы аднаму,
Што за мару я песціў употай!
Быў шчаслівы да краю, пэўна, таму
Усё адносіў прызнанне на потым.

А цяпер маю мару звязе трактарыст,
Павязе маю песню далёка..
Весялей, музыканты,
Спявайце, сябры,
Каб на сэрцы зрабілася лёгка!

Трактарысту зайздрошчу —
Не стану хлусіць,
А за лёс маладой — не крыўдую:
Знаю, будзе да смерці ён жонку любіць
Моцна так, як цяпер маладую.

«Масквічы» на двары ўжо сігналы даюць —
Доўга штосьці сваты расстаюцца,
І стаеннікі ў брычках падковамі б'юць,
У дарогу вясёлую рвуцца.

Больш не «горка» гасцям...
Горка мне аднаму.
І, відаць, не чакалі жанчыны,
Што і я за шчаслівую пару ўзніму
Тост сяброўскі, сардэчны і шчыры.

Трымаючы штурвал камбайна, яна адчувала, як упэўнена ён ішоў па пругкай зямлі, чула, як звінела салома на транспарцёры і як гэта злівалася з мяккім гулам матора. Наперадзе ляжала шырокае поле густога жыта, з панікльмі цяжкімі каласамі. Мілі здавалася, што вось тут, у гэтым бяскраі багацця, пад гэтым гарачым сонцам, і шчасце і радасць яе жыцця. І няма сілы, якая звярнула-б яе з гэтай дарогі. Як зрабіць, каб Захар сам адчуў, зразумеў, каб сам перажыў гэтае шчасце? І тады-б між імі стала ўсё добра. І яна верыла, што ён прыдзе, верыла, бо не ўяўляла сабе другой дарогі.

...Зіначка, гледзячы ўдалячынь, раптам убачыла аж там, у канцы загонкі, нейкую кропку. Яна ўспырхвала над жытам, то ўздымалася, то знікала зноў, набліжалася. Ёй здалося, што ляціць нейкая птушка, узмахваючы крыламі нізка над каласамі. Праз хвіліну яна выразна разгледзела ўскудлачаную галаву Захара. Ён бег па дарозе сюды, на поле, да Мілі.

— Ой, Мілечка, матор я сваёй машыны не выключыла, — схлусіла Зіна, успляснула рукамі і скочыла з камбайна ўніз, на іржэўнік.

«Там, на рагу, на павароце яны спаткаюцца. Няхай самі, адны... Трэці тут лішні...»

Ул. ДАДЗІОМАЎ

# Дарагі скарб

Нарыс



Сакратар комсамольскай арганізацыі МТС токар М. Паўлюкевіч.

1

Ля ганку канторы Гродзенскай МТС спыніўся «газік». Неўзабаве ў кабінет дырэктара ўвайшоў шафёр.

— Можна ехаць, Мікалай Рыгоравіч.

— Я зараз...

Дырэктар падпісаў зводку, перадаў яе сакратару, але толькі што сабраўся ісці, як за дзвярыма пачуўся голас:

— Шураўка ў сябе?

— Зараз паедзе ў калгасы.

Па голасу дырэктар пазнаў загадчыка эмтээсаўскай майстэрні Уладзіміра Рыжанкова і нездаволена зморшчыўся.

У дзверы асцярожна пастукалі.

— Можна, Мікалай Рыгоравіч?

Голас у загадчыка майстэрні, як і заўсёды, мяккі.

— Заходзьце.

Рыжанкоў падышоў да стала, моўчкі працягнуў акуратна складзены аркуш паперы.

— Вось... Заява... Прашу... Па ўласнаму жаданню...

Яны стаялі адзін насупраць другога — абодва стройныя, маладыя. Толькі загадчык майстэрні вышэйшы ростам ды апрануты ў новае шырокага крою паліто. А ў дырэктара плашч.

— Сядайце, — як мага спакайней сказаў Шураўка. Ён яшчэ раз прачытаў заяву, непрыкметна паглядзеў на Рыжанкова. Той насцярожана сачыў за ручкай, якую трымаў дырэктар МТС.

— Значыцца, вырашылі канчаткова?

— Вырашыў, Мікалай Рыгоравіч, — сказаў Рыжанкоў і апусціў вочы. Узняў ён іх тады, калі зарыпела пяро.

Дырэктар размашыста правёў у левым кутку заявы рыску, каб пад ёй напісаць рэзалюцыю. На нейкую секунду падумаў: варта сказаць «працуйце», і Рыжанкоў забярэ заяву... Можна нават напомніць: «вы прыехалі па закліку комсамола». Але... рука дырэктара наважылася канчаткова пакласці рэзалюцыю.

— Я не пярэчу, — сказаў ён. — А як глядзіць комсамольская арганізацыя?

— З Паўлюкевічам я яшчэ не гаварыў.

— Трэба пагаварыць.

Загадчык майстэрні падняўся. Але Шураўка затрымаў яго.

— Я раіў-бы вам працаваць па сваёй спецыяльнасці — меліяратарам.

Рыжанкоў раздражнёна сказаў:

— Я не прасіўся. Мяне сюды прыслалі.

— То была памылка, — спыніў яго Шураўка і таксама падняўся са свайго месца.

2

— Смелы вы чалавек, Мікалай Рыгоравіч. Не баіцёся, што хтонебудзь шум падыме. Чалавек-жа з вышэйшай адукацыяй, прыехаў па пуцёўцы гаркома комсамола, а вы яго адпускаеце, — гаварыў неўзабаве дырэктару МТС сакратар партыйнай арганізацыі Валянцін Сямёнавіч Сямікос.

— Не баюся — адпускаю! Яго, — Шураўка кіўнуў галавой у бок маладога хлопца, што сядзеў побач, — яго не адпусціў-бы. Вас, Багдановіча, нарэшце, самога сябе — усіх, хто прыехаў сюды, — не адпусціў-бы. А Рыжанкова — калі ласка. Я адразу быў супраць эксперыментаў. Меліяратара прысылаць загадчыкам майстэрні! Тым, хто яго прыслаў, лічбы патрэбны былі, колькасць чалавекаадзінак для справаздачы... А мне не справаздача патрэбна, а работа. Што я магу патрабаваць ад чалавека, які не ведае справы? А ён яе сапраўды не ведае. Ці не так, Паўлюкевіч?

Мікалай Паўлюкевіч адказаў не адразу.

— Ён стараўся, Мікалай Рыгоравіч... Толькі... Ён да нас нібы ў вучні паступіў. Цяжка яму... І нам з ім цяжка.

Валянцін Сямёнавіч Сямікос крыху памаўчаў. Шураўка глядзеў на яго, чакаў, што скажа парторг. Вось ужо чатыры месяцы яны працуюць разам. Паважаюць адзін другога.

— Ну што-ж, — сказаў нарэшце парторг, — хтосьці памыліўся, памылку гэтага «хтосьці» трэба выпраўляць. Партыя прыслала ў вёску так многа цудоўных людзей. І калі там нейкі «хтосьці» бюракратычна адпісаўся ад важнай справы, то ён нанёс шкоду і партыі і самому чалавеку, аб якім не хацеў падумаць. Раней, магчыма, гэтага і не заўважылі-б. Зжыўся-б чалавек, і з ім зжыліся-б. А зараз — не! Час другі. Калі чалавек не на месцы, дык адразу прыкметна. Толькі...

Парторг злавіў на сабе насцярожаны позірк дырэктара, усміхнуўся:

— Толькі, Мікалай Рыгоравіч, трэба і аб Рыжанкове падумаць. Калі-б ішла размова аб чалавеку, які адвільвае ад работы, шукае сабе цёплага месца — я з ім інакш пагаварыў-бы. А тут... Не яго-ж, сапраўды, віна, што сеў не ў сваё крэсла. Трэба дапамагчы. Можа на сваё месца стане чалавек.

3

Скарб...

— Як, сапраўды, хораша сказаў парторг... Вельмі хораша, — думаў сакратар комсамольскай арганізацыі МТС Мікалай Паўлюкевіч. — Далёка бачыць партыя. І якая вялікая мудрасць, глыбокае пранікненне ў жыццё ва ўсіх яе рашэннях! Нявыкарыстаныя рэзервы, новая тэхніка і ўмелае яе выкарыстанне, прымяненне перадавой агранаміі, асваенне новых зямель — гэта-ж такая скарбніца багаццяў! Але галоўны скарб — людзі. — Комсорг успомніў тых, хто прышоў у МТС: дырэктар, парторг, галоўны аграном, перадавыя рабочыя з заводаў. Яны прынеслі новую культуру, веды, павялі за сабой людзей, што любілі ціхае, спакойнае жыццё. Уладзімір Рыжанкоў не здолеў павесці за сабой людзей... А вось яму, Мікалаю





Пасадка бульбы ў калгасе імя Панамарэнкі. У кругу брыгадзір трактарнай брыгады М. Рапейка.



Новая цяпліца ў калгасе імя Панамарэнкі. На здымку: члены гароднягa звяна (злева направа) **В. Вачынская, М. Лукашэвіч** і **Л. Валкаnоўская.**
Фото В. Косціна.

Мечыслаў Рапейка вырашае ўсе неадкладныя справы. Так, зроблена нямала. Але колькі яшчэ трэба зрабіць!

Прышла на памяць апошняя сустрэча з Рыжанковым. Ён бачыў былога загадчыка майстэрні ў горадзе. На ім быў, як і раней, у МТС, прыгожы касцюм. Паўлюкевіч чуў, што малады інжынер застаўся працаваць у абласным упраўленні сельскай гаспадаркі. І зноў, кажуць, не па сваёй спецыяльнасці. Пэўна, памыліўся тады парторг: ці не сам Уладзімір Рыжанкоў вінаваты ў тым, што «хтосьці» так дзіўна «вырашае» яго лёс?!

На ўзгорку гудзе трактар. Шызы дымок развявае вецер. Хораша ў полі...

**Гродзенскі раён**
**Гродзенскай вобласці.**

Паўлюкевічу, вельмі хочацца разам з сябрамі ісці наперад. Штоні-што ён паспеў ужо зрабіць, але гэтага яшчэ вельмі мала. Час патрабуе большага...

Мікалай падышоў да станка, за якім завіхаўся юнак гадоў шаснаццаці. Паглядзеў, як ён працуе, дапамог яму. Яшчэ не раз Мікола потым дапамагаў Якубоўскаму, вучыў яго, як трэба працаваць. Цяпер Пракоп выконвае нормы. А яшчэ нядаўна хадзіў ён у вучнях, збіраўся нават кідаць работу. А тут прыехаў у МТС новы токар Мікалай Паўлюкевіч. Упершыню ў МТС прымяніў ён скораснае рэзанне металу. На станку, дзе токары не выконвалі норм, Паўлюкевіч пачаў даваць за змену па дзве-тры нормы. У яго пачалі вучыцца другія токары. Пракоп зайздросціў ім і вельмі хацеў навучыцца працаваць вось так-жа, як і Мікола. Паўлюкевіч пачаў яму дапамагаць.

Разам з Мікалаем па закліку партыі прыехалі ў Гродзенскую МТС яго сябры — маладыя рабочыя, комсамольцы Мікалай Багдановіч і Віктар Салавей. Багдановіч вырашыў стаць трактарыстам і паступіў на курсы. Віктар Салавей быў прызначаны брыгадзірам комсамольска-маладзёжнай брыгады па механізацыі працаёмкіх работ на калгасных жывёлагадоўчых фермах. Прайшло нямнога часу. Цяпер Мікалай Багдановіч — перадавы трактарыст. Брыгада Віктара Салаўя пабудавала ў калгасе «Рассвет» і імя Міцкевіча кормазапарнікі, у калгасе «Герой» — аўтапаілку, зрабіла на сядзібе МТС водаправод.

І яшчэ адна вельмі характэрная дэталь. З прыездам у МТС на пастаянную работу групы лепшых маладых рабочых прамысловых прадпрыемстваў Гродна ажывілася ўся комсамольская работа.

...Міколу Паўлюкевіча выбралі сакратаром комсамольскай арганізацыі МТС параўнальна нядаўна. Раней сакратаром была галоўны аграном Ніна Швед. Моладзь яе паважала. Ніна ездзіла ў Маскву, была ў Крэмлі на Усесаюзнай нарадзе механізатараў, выступала на гэтай нарадзе. З Масквы яна вярнулася вельмі ўсхваляванай.

— Ну, сябры, — сказала яна на комсамольскім сходзе, — дала я ў Крэмлі ад вашага імя слова: дабіцца высокай ураджайнасці. Вельмі вас прашу не падводзіць мяне.

Сказала, а вочы свяцяцца цёплымі агеньчыкамі так, што нікому не хочацца адводзіць свайго позірку ад гэтых вачэй. І не хочацца падводзіць гэтую дзяўчыну.

Любіла моладзь галоўнага аграннома...

І калі Ніна папрасіла, каб яе вызвалілі ад пасады сакратара, моладзь спачатку наадрэз адмовілася, а потым згадзілася: галоўным аграномам, сапраўды, не лёгка працаваць! Ніна Швед параіла выбраць сакратарам камітэта комсамола Міколу Паўлюкевіча.

— Ён і на заводзе быў важаком. Справіцца.

Яе падтрымалі, хоць многія так і не ведалі, што Мікола працаваў сакратаром заводскай комсамольскай арганізацыі. У ім адразу адчулі комсамольскага кіраўніка.

4

Насталі, нарэшце, сонечныя дні. Пад подыхам лёгкага ветру шапочуць зялёныя ўсходы. Куды ні кінеш вокам — зялёны дыван!

Па вузкай палявой сцежцы паціху рухаецца матацыкл. У каляссы сядзіць Мікалай. Ён жмурыць ад сонца вочы і ўсё глядзіць на палі. Радасна ад гэтага неабдымнага мора хлябоў, ад харастка палёў, ад сустрэч з сябрамі. Многа было гэтых сустрэч у полі. Усе яны прыемныя, хоць часам і прыходзіцца размаўляць з тым ці іншым трактарыстам аб не зусім прыемных справах. Радуе выключны ўздым, з якім працуюць механізатары, радуе шчырая і патрабавальная дружба, што нарадзілася паміж калгаснікамі і трактарыстамі. Амаль усе маладыя трактарысты паспяхова правялі веснавую сяўбу. У маладзёжнай брыгадзе Герасіма Літвіна прымяняецца пагадзінны графік. Вопыт механізатараў передаецца ўсім трактарыстам. Нарадзіліся імёны перадавікоў соцыялістычнага спаборніцтва. Мікалай Багдановіч, Аляксандр Кісель, Вацлаў Гаманчук, Леанід Адаменя ўвесь час перавыконваюць нормы.

Ёсць, вядома, і недахопы. Старшыня калгаса імя Панамарэнкі Рыгор Паўлавіч Кавальчук двойчы забракаваў работу трактарыста Пятра Граеўскага. «Табе, відаць, гектары патрэбны, а мне хлеб! Зразумела?» Прышлося пераробляць. На сходзе механізатараў брыгады гэты выпадак быў абмеркаваны.

Мікалай ехаў зараз дарогамі калгаса імя Панамарэнкі. Шмат папрацавалі тут механізатары. Уся сяўба праведзена машынамі, нават цукровыя буракі сеялі імі. Бульбу пасадзілі толькі квадратнагнездавым спосабам, асвойваюцца новыя землі, пабудавана вялікая цяпліца, расшырана плошча пад гародніну. У механізатараў і калгаснікаў моцная дружба. Калгас забяспечыў механізатараў пастаяннымі падвозчыкамі гаручага. Разам са старшынёй калгаса брыгадзір трактарнай брыгады

**В. НЕСЦЯРОВІЧ**

## З табою, партыя

Крывёю быў адзначан першы след
Суровага дваццатага стагоддзя.
У Піцеры бастуючым мой дзед
Тады на дэманстрацыю выходзіў.

У студзені ля Зімняга свінцом
Сустрэт ён быў па царскаму загаду
І з той пары стаў партыі байцом,
Пад сцяг яе пайшоў на барыкады.

А як над цэлым светам прагулі
«Аўроры» залпы пераможным гімнам,
Мой бацька у салдацкім шынялі
Праз пляц Дварцовы уварваўся ў Зімні.

Ён штурмаваў Сіваш,
Махноўцаў біў,
Старому свету свой прысуд выносіў.
Бывала, бацька мой не раз плаціў
Сваёй крывёй партыйныя узносы.

На непрыступным волжскім рубяжы
Ён паў героем сталінградскай бітвы.
У музеі партбілет яго ляжыць,
Наскрозь варожай куляю прабіты.

Сын комуніста,
Комуніста ўнук,
Са слаўным шляхам партыі знаёмы,
Я партбілет бяру сягоння з рук
Сакратара партыйнага райкома.

З табою, партыя, звязаў жыццё і лёс,
Клянуся быць тваім адданым сынам,
Як тыя, хто праз грозны час пранёс,
Як сцяг Радзімы, свой білет партыйны.

**В. АДАМЧЫК**

## Сэрца

Бачу я — дарма парогі
Абіваю за табой:
Ты заўсёды вельмі строга
Абыходзішся са мной.

Нават часу на размову
Не знаходзіш назнарок,
А пры стрэчы выпадковай
Ты глядзіш у іншы бок.

А бывае — хмурыш бровы
І зірнеш тады няўзнак...
Лепш, чым погляд той суровы,
Я стрымаў-бы сто атак.

Усур'ёз, а не на жарты
Гаварыла мне не раз:
— Ці-ж хадзіць за мною варта...
Сцежкі розныя у нас.

Я не скардзіўся ніколі,
Прабачэння не прасіў...
Толькі ў сэрцы з нейкім болем
Словы гэтыя насіў.

Што казаць, і так без меры
Наракаў на маладосць.
Не кахаеш — я паверыў,
Ды не верыць сэрца штось.

Янка МАЎР

# Апошні вылет

Апавяданне

Мал. А. Волкава.

Дваццаць сёмага ліпеня дзевяцьсот пяцьдзесят трэцяга года на вуліцах Токіо можна было заўважыць некаторае хваляванне. Людзі збіраліся групамі і аб чымсьці ажыўлена размаўлялі. На Імператарскай плошчы, супраць сцяны, за якой жыў мікада, народу, які стаяў на каленях і маліўся на імператарскі палац, было больш. Ля амерыканскага галоўнага штаба, які стаяў на той-жа плошчы, было таксама ажыўленне. Больш ваенных пад'язджала і ад'язджала ад яго, больш жвава бегалі салдаты. І да рэстарана з шыльдай «Толькі для амерыканцаў» таксама пад'язджала на машынах больш ваенных.

Адзін лётчык «з шыкам» пад'ехаў на рыкшы. Шчуплы «конь» бег як мага, кроплі поту каціліся па яго твары, вочы глядзелі некуды ўгару, а масіўны пасажыр толькі пастукваў стэкам па передку каляскі. Гэта быў капітан ваенна-паветраных сіл Фрэнк Боўтар, чалавек гадоў пад сорак. У яго быў сухі твар з вострым падбародкам, вострым носам, з тонкімі сціснутымі губамі, тонкімі брывямі і вузкімі вачыма. Усё гэта надавала яму нейкі калючы выгляд. Ён саскочыў з калясачкі, не глянуўшы на рыкшу, кінуў яму пад ногі дробную манету і, ступаючы нібы спружыннымі нагамі, увайшоў у рэстаран.

Там ужо былі заняты бадай усе столікі. У дымным пакоі чуліся гучныя, усхваляваныя галасы. Калі Боўтар абмінуў некалькі столікаў, ён пачуў голас:

— Ало, Боўтар! Просім сюды.

Боўтар азірнуўся і ўбачыў свайго начальніка, палкоўніка Данінга. З ім сядзеў яшчэ знаёмы штабны афіцэр — маёр Дукс. Боўтар далучыўся да іх.

— Ну, што скажаце пра сённяшнія звесткі, дарагі Боўтар? — спытаў маёр.

— Каб адказаць на гэтае пытанне, я прашу дазволу спачатку выпіць, — адказаў Боўтар.

— Калі ласка, просім, — і маёр наліў Боўтару шклянку віскі.

Боўтар выпіў, закусіў амерыканскім паштэтам і сказаў:

— Не падабаецца мне гэтая музыка. З нашымі рэсурсамі ды ісці на нічыйны мір — гэта ганьба!

Пры гэтых словах палкоўнік і маёр зірнулі адзін на аднаго і ўсміхнуліся з такім выглядам, нібы казалі: «Вядома, хто з сапраўдных амерыканцаў будзе разважаць інакш?» Боўтар горача казаў далей:

— І не толькі ганьба, а надзвычайная шкода. Што скажуць цяпер нашы саюзнікі, якія прывыклі лічыць нас гаспадарамі свету? Што скажуць іншыя народы, якія прывыклі лічыць нас усемагутнымі? Што скажуць комуністы, якія да гэтага часу баяліся нас? Што скажуць нашы прамыслоўцы, якім прыдзецца цяпер скараціць сваю вытворчасць? Што думаюць цяпер хаця-б вось гэтыя японцы, убачыўшы, што мы не здолелі справіцца з няшчаснымі гукамі? *

— Не забывайце, што нам прышлося мець справу яшчэ з кітайцамі, — заявіў маёр.

— Усёроўна!.. — крыкнуў Боўтар і гатоў быў стукнуць кулаком па стале, ды стрымаўся перад начальствам. — Маючы атамную бомбу, мы маглі-б справіцца і з кітайцамі, і з рускімі, і з усімі.

— Вы не ўлічваеце, што нам прышлося яшчэ прымаць пад увагу думку бадай што ўсіх народаў зямлі, якія наогул не любяць вайну, — прамовіў палкоўнік. — Нам нявыгадна, калі нас будуць лічыць прыхільнікамі вайны, ворагамі міру. Мы на гэтым можам страціць больш, чым на перамір'і з Карэяй.

— Пераможцаў не судзяць, — адказаў Боўтар. — Сілу ўсе паважаюць, і калі-б мы перамаглі, то ніхто не адважыўся-б асуджаць нас.

Палкоўнік з цікавасцю слухаў Боўтара і лагодна сказаў:

— Я вас разумею, вы разважаеце як стопрацэнтны амерыканец. Дык ведайце, што наш урад таксама стопрацэнтны і пэўна думае таксама, як і мы з вамі. Мы ўжо больш года вялі перагаворы аб міры. Дык хто нам забароніць весці перагаворы яшчэ год ці два? А тым часам, хто ведае, што можа здарыцца... — скончыў ён з тонкай усмешкай.

За ўсімі іншымі столікамі таксама гутарка ішла толькі аб сённяшнім перамір'і. Нехта стукаў кулаком і крычаў:

— Не жадаем міру без ніякай карысці! Навошта тады мы ваявалі?..

За другім сталом чуўся голас:

— Мы досыць магутныя, каб ні да кога не прыслухоўвацца і давесці вайну да пераможнага канца!

Палкоўнік Данінг тым часам казаў:

— Мы прадбачым, што з комуністамі вельмі цяжка будзе дайсці да згоды, таму мы павінны быць гатовымі да новых канфліктаў. А калі канфлікты зноў пачнуцца і мы вымушаны будзем зноў абараняцца ад агрэсараў, тады ўжо свет нас не асудзіць. Усе будуць ведаць, што мы хацелі міру, але дагаварыцца з комуністамі немагчыма. Разумееце?

Боўтар правёў рукой па валасах, паглядзеў на сваіх субяседнікаў і сказаў:

— Калі я правільна зразумеў, то мы не абавязаны дамагацца пагаднення надта настойліва.

Палкоўнік і маёр моўчкі кіўнулі галовамі ў знак згоды.

— Значыцца, мы не будзем бедаваць, калі пагадненне не ўдасца! — ужо весела сказаў Боўтар. — Значыцца, сёння можна было-б зрабіць яшчэ адзін вылет. Апошні...

— Фармальна мы маем права на гэта, — сказаў маёр. — У падпісаным сёння ў дзесяць гадзін перамір'і сказана, што агонь павінен быць спынены толькі ў дваццаць дзве гадзіны. Значыцца, да дваццаці двух гадзін мы маем права рабіць усё тое, што рабілі да гэтага часу. Ці не так, пан палкоўнік?

— Думаю, што так, — адказаў той. — Можаце сказаць нашу думку вашаму камандзіру падпалкоўніку Стэрну.

Побач, за другім сталом, сядзеў, апусціўшы галаву, п'яны афіцэр. Ці ён пачуў гэтую размову, ці сам думаў аб гэтай справе, але ён павярнуўся і спытаў:

— Панове афіцэры, як вам здаецца: ці нашы салдаты на фронце таксама жадаюць вайны, як мы тут?

Усе трое здрыгануліся, а палкоўнік строга сказаў:

— Вы ведаеце, містэр, чым вы рызыкуеце, гаворачы такія словы?



* Так зняважліва амерыканцы называюць карэйцаў.

— Нічога не ведаю, нічога не разумею, — адказаў афіцэр яшчэ больш п'яным голасам.

Палкоўнік прыглядзеўся да п'янага і ўстаў. Усталі і Дукс з Боўтарам. Палкоўнік матнуў ім галавой і пайшоў. А маёр і капітан вышлі праз мінуту пасля яго.

... Гадзіны праз дзве з амерыканскага аэрадрома, што быў у аколіцах Токіо, узняўся самалёт-разведчык. Праз хвіліну ён быў над воблакамі і ўзяў курс на захад. За штурвалам сядзеў капітан Фрэнк Боўтар. Побач з ім — штурман Эрвін Гартвіг.

Праз некалькі хвілін пад імі было ўжо мора. Праз «вокны» ў воблаках сям-там чарнеліся кропкі-караблі. Сонца свяціла з левага боку. Ад яго праменняў паступова раставалі і некуды знікалі воблакі. Нягледзячы на грукат матораў, вопытныя лётчыкі ўмелі адчуваць цішыню, якая панавала ў паднябессі. Палёт быў спакойны, бяспечны, і ў галаву лезлі бестурботныя, мірныя думкі. Боўтар успомніў свой родны гарадок у Каліфорніі, свой стары, нязграбны дом. З вялікім замілаваннем уявіў ён сабе жонку і двух дзяцей: дзесяцігадовую дачушку Бэтсі і пяцігадовага карапуза Боба. Яму захацелася іх убачыць, прыціснуць да грудзей, пацалаваць! Што яны цяпер робяць? У іх цяпер раніца, Боб, пэўна, спіць, а Бэтсі гаспадарыць, бо маці пайшла ў майстэрню, якая знаходзілася ў другой палове дома. Хоць стары Джэк і надзейны наглядач, але вока гаспадыні заўсёды патрэбна. Цяжка ёй цяпер спраўляцца з гэтай майстэрняй. Гузікі «Шчасце халасцяка» (яны прымацоўваюцца без іголкі і ніткі) цяпер вельмі патрэбны, але з такім нікчэмным прадпрыемствам далёка не паедзеш. Фабрыку трэба пабудаваць... Фабрыку! Тады адразу можна зрабіцца чалавекам. Якім шчасцем была гэтая вайна! За адзін год можна было зарабіць столькі, колькі ў звычайных умовах не заробіш і за пяць гадоў! На адных толькі вылетах можна выгнаць у год тысяч дваццаць. Апрача таго, калі ў чалавека ёсць галава на плячах, можна здабыць у тутэйшых азіятаў і яшчэ шмат чаго карыснага. Каб прабыць тут гадоў чатыры-пяць, то можна было-б ехаць дадому з фабрыкай у кішэні. А ён, Боўтар, прабыў тут усяго толькі адзінаццаць месяцаў, і на яго нявысце вось гэтае недарэчнае перамір'е. Ёсць за што ненавідзець гэтых комуністаў і іншых балбатуноў, што крычаць на ўвесь свет: «Мір! Мір!..» Хай прагне міру той, хто хоча гібець у цяжкай працы, а ён, Фрэнк Боўтар, хоча жыць, як належыць амерыканцу, хоча быць багатым і ўладарным.

Боўтар выпрастаў грудзі, глыбока ўдыхнуў чыстае паветра і адчуў, як па жылах разлівалася радасць жыцця. Добра жыць на свеце! Добра быць амерыканцам!..

Штурман Эрвін Гартвіг, белабрысы дзяцюк, сядзеў над сваёй картай, пазіраў на прылады і рабіў нейкія адзнакі. Ён таксама адчуваў сябе добра, хоць быў пакрыўджаны гэтым перамір'ем не менш за свайго пілота. Сын змізарнелага адваката, Гартвіг доўга круціўся ў сваёй Пенсільваніі, як вужака на патэльні, каб «выбіцца ў людзі». Скончыўшы юрыдычны каледж, ён і бацьку дапамагаў, і самастойныя справы вёў, і быў прадстаўніком фірмы па продажу мікрафотаапаратаў, затым зрабіўся кампан'ёнам у прадпрыемстве па вырабу нейкай незвычайнай атруты для пацукоў, потым выраблаў фотакарткі з атамнымі бомбамі, але нідзе не мог разбагацець. Ён «каштаваў» трычатыры тысячы долараў у год * і ні бедна ні багата жыць мог-бы, але Эрвін Гартвіг такога жыцця не жадаў. Калі пасля другой сусветнай вайны амерыканцы пачалі распаўзацца па ўсім свеце, Эрвін Гартвіг сцяміў, што тут можа быць добры бізнес. Ён пайшоў у армію, перакваліфікаваўся на штурмана авіяцыі, а потым трапіў у Карэю. Гэты бізнес яму спадабаўся больш за ўсе папярэднія. Зарабіць тут куды лягчэй, чым дома. І ў Паўднёвай Карэі і ў Японіі можна адчуваць сябе поўнапраўным гаспадаром. Гэтыя азіяты могуць быць рабамі не горшымі, чым свае ўласныя негры. Апрача ўсяго, ён тут пабачыў столькі цікавага, што будзе чым пахваліцца, вярнуўшыся на радзіму. Гартвіг успомніў міс Кэт, дачку свайго суседа, фабрыканта па вырабу рагожы. Гэтая міс Кэт, адзіная дачка багатага фабрыканта рагожы, з пагардай ставілася да Эрвіна. А цяпер паглядзім, хто кім будзе пагарджаць! Усё было-б добра, каб не гэты непатрэбны мір. Зваліўся ён на галаву Эрвіна Гартвіга, як камень з гары! Эрвін зусім не чакаў такога няшчасця і шмат грошай змарнаваў зусім без патрэбы: думаў, што гэты бізнес будзе цягнуцца бясконца. А вышла вось як...



Злосць ахапіла Эрвіна Гартвіга і на сябе самога, і на ўсіх комуністаў, і на ўсіх азіятаў, і на ўсіх тых, хто перашкаджае такой добрай справе, як вайна.

У такім настроі ляцелі два амерыканцы ў свой апошні «мірны» рэйс. Выпраўляючы іх у палёт, падпалкоўнік Стэрн сказаў:

— Вы добра разумееце, што гэтае перамір'е нам недарэчы. Значыцца, для нас будзе карысна ўсё тое, што пойдзе супраць яго, напрыклад: няўпэўненасць, трывога, страх у тылу ворага, здымкі, якія маглі-б паказаць, што комуністы пасля перамір'я падцягваюць войскі на фронт. Адным словам, ваша задача — напомніць комуністам і ўсім зацікаўленым людзям, што да міру яшчэ далёка. Узбраенне ваша будзе звычайным, вы возьмеце і фугасную бомбу, і «Suргор» *. Можаце таксама ўзяць і дробныя падарункі. Чаго ім прападаць? Да дзесяці гадзін вечара вы маеце права рабіць, што хочаце. Начальства паклапацілася аб гэтым, ставячы такую ўмову пры падпісанні перамір'я.

Такое даручэнне вельмі спадабалася Боўтару і Гартвігу: і злосць сваю можна было сагнаць, і сёе-тое зрабіць супраць міру — і ўсё гэта бадай што без ніякай рызыкі.

Праз некаторы час далёка наперадзе паказалася група астраўкоў, а далей на захад цьмяна вызначыўся бераг Карэі. Яшчэ некалькі хвілін — і можна было заўважыць на беразе заліва нібы горад.

— Вансан! — сказаў штурман.

Фактычна гэта быў не горад, а толькі адны руіны. Размясціліся яны ўздоўж берага, а за імі ўздымаліся горы. Да сённяшняга дня амерыканцы наўрад ці маглі-б убачыць у гэтым горадзе хоць аднаго чалавека — усё насельніцтва хавалася пад зямлёй. А сёння сярод руін было многа людзей. Упершыню за тры гады яны хадзілі па вуліцах вольна, радасныя, збіраліся групамі, нават сям-там выставілі флагі. Слова «Мір!» на некаторы час прымусіла іх забыць усе страшэнныя няшчасці, якія давялося перажыць за гэтыя тры гады.

Штурман пачуў праз навушнікі голас Боўтара:

— Радуюцца, дурні! Зараз мы ім напомнім, што яшчэ рана святкаваць.

Самалёт зрабіў разварот і брыючым палётам панёсся над горадам, асыпаючы вуліцы кулямётнай чаргой... Крыкі, праклёны пачуліся ўнізе, але яны не даляцелі ні да вушэй, ні да сэрца амерыканскіх «герояў». Усё гэта адбылося так хутка і так нечакана, што карэйскія батарэі з узвышшаў над горадам паспелі паслаць услед самалёту толькі некалькі позніх стрэлаў.

Боўтар і Гартвіг паглядзелі адзін на аднаго і засмяяліся.

Праляцеўшы некалькі кілометраў уздоўж берага, яны падняліся і мінулі горы. Цяпер самалёт плыў над мірнай краінай, дзе, здаецца, і вайны ніякай не было. Пакрытыя лесам узвышшы, ціхія, зялёныя даліны, спакой і цішыня...

Ні жылля, ні людзей не відаць.

Усё знішчана за гады вайны. Але раптам на схіле гары — карова! Значыцца, павінны быць і людзі. Даўшы чаргу па карове, лётчыкі паляцелі над далінай і заўважылі, што ў зарасніку на беразе рачулкі яшчэ ёсць жывёла, а з лясістага яру ўздымаецца струменьчык дыму. Апрача таго, паблізу відаць многа апрацаванай зямлі.

Амерыканцы адчулі некаторае хваляванне, якое бывае ў паляўнічых, калі яны трапляюць на след дзічыны.

— Утульны куток, — зазначыў штурман.

— Спускай звышпрапагандысцкую, — сказаў Боўтар. — Тут нашым «прапагандыстам» вельмі добра будзе гадавацца.

І на ўтульны бераг рачулкі паляцела бомба з амерыканскімі саюзнікамі — бактэрыямі.

Праз некалькі мінут самалёт быў над другой такой-жа цудоўнай далінай. Тут было досыць значнае і багатае паселішча. Нейкім цудам яно захавалася да ўчарашняга дня, а сёння досвіткам «апошнія бамбардыроўшчыкі» зруйнавалі яго ўшчэнт. На пажарышчы, якое яшчэ дымілася, хадзілі людзі ў белым, жалобным адзенні. Яны падбіралі забітых і клалі іх пад дрэвам у рады. Забітыя — адны толькі дзеці, жанчыны, старыя. Здаровых мужчын — ніводнага, усе на фронце. Жывыя ўжо не плакалі так, як раней: усе слёзы былі выплаканыя.

---

* У ЗША гавораць, што чалавек «каштуе» столькі, колькі ён зарабляе.

* Так называюць амерыканцы бактэрыялагічныя бомбы. «Suргор» скарочана азначае: «звышпрапагандысцкая» (бомба).

Засталіся сухое, пякучае гора і нянавісць. Святая нянавісць да вылюдкаў, што прыляцелі з-за акіяна і прагна накінуліся на цудоўную «Краіну Ранішняга Спакою».

Раптам ціхая даліна напоўнілася грукатам матора. З-за сопкі вынырнуў самалёт. Не паспелі людзі апамятацца, як на галовы іх пасыпаўся дождж куляў... Да халодных трупаў далучыліся трупы цёплыя...

Боўтар абстраляў іх так сабе, машынальна, нават не прыглядаючыся да іх. Ён глядзеў наперад і вышукваў якую-небудзь групу людзей, каб выканаць адно з даручэнняў: сфатаграфаваць «падмацаванні» на фронт. На шасе ён убачыў дзесятак аўтамашын, якія накіроўваліся на поўнач. Карыстаючыся перамір'ем, карэйцы адкрыта адпраўлялі з фронта раненых. На пярэдняй, крытай, машыне выразна віднеўся чырвоны крыж.

— Сфатаграфуем іх, а чырвоны крыж потым затушуем, — сказаў Боўтар і накіраваў у той бок самалёт.

Гартвіг зрабіў здымак.

— А зараз я зраблю разварот, і ты скінеш на іх «апошнюю» бомбу, — сказаў Боўтар.

Калі самалёт наляцеў на эшалон, карэйцы вельмі спалохаліся: хоць і перамір'е, але ад амерыканцаў усяго можна чакаць... Калі-ж самалёт «мірна» праляцеў над імі, яны загаманілі: «Усё-ж такі і яны могуць быць людзьмі!..» Але ў гэты момант над імі зноў з'явіўся самалёт, а ўслед за тым пачуўся выбух бомбы...

Цяпер самалёт ляцеў над чыгункай. У час ранейшых налётаў амерыканцы не бачылі людзей — людзі заўсёды хаваліся. А цяпер людзі сустракаліся часта, задаволеныя, вясёлыя.

— Сзяткуюць...—прабурчэў Гартвіг. — Зараз ім скіну святочныя падарункі.

І каля адной зруйнаванай станцыі, дзе бегала некалькі дзяцей, ён скінуў ім «падарункі»: мячыкі, каробачкі, ручкі і іншыя цацкі, зробленыя па апошняму слову амерыканскай тэхнікі. Гэтыя цацкі ўзрываліся ў руках дзяцей. Хоць узрыў такой цацкі не мог забіць чалавека, але ён мог адарваць пальцы ці выбіць вока ў пяцігадовага дзіцяці, а для амерыканскай дзяржавы, відаць, і такі поспех меў значэнне, калі яна наладзіла выпуск падобнай «прадукцыі».

Налева ад чыгункі яны заўважылі нейкі лагер. Значная плошча была забудавана баракамі і рознымі гаспадарчымі будынкамі, і ўсё гэта было абнесена агарожай.

— Лагер з нашымі ваеннапалоннымі, — сказаў штурман.

Боўтар крыху павярнуў самалёт у той бок. Праляцаючы над лагерам, ён раптам... пусціў па ім чаргу з кулямёта.

— Што ты робіш?! — закрычаў Гартвіг.

— Так ім і трэба! — злосна адказаў Боўтар. — Навошта яны здаваліся ў палон?

У гэты момант яны заўважылі цягнік, які ішоў на поўдзень, гэта значыць, на фронт. Вось гэта акурат ім і трэба было! Вось яно, патрэбнае «падмацаванне» пасля перамір'я! Самалёт пусціўся за цягнікам. Але, «на вялікі жаль», цягнік складаўся толькі з адных пустых платформ. Боўтар вылаяўся і прайшоўся кулямётам па ўсім цягніку. Лётчыкі нават не заўважылі, што на тэндары паравоза прытуліўся карэйскі баец з зенітным кулямётам...

І цягнік і самалёт у гэты момант ішлі на поўднёвы захад. Праз хвіліну чыгунка скіравала на поўдзень, а самалёт ляцеў у ранейшым кірунку — на поўднёвы захад.

— Трымай лявей!.. — сказаў Гартвіг. — Там, здаецца, ідзе калона салдат.

Боўтар крутнуў руль паварoту, але ён заскрыгатаў і не даў ніякага эфекту — самалёт па-ранейшаму трымаў курс на поўднёвы захад.

— Чорт вазьмі! Што-ж гэта такое? — закрычаў Боўтар і пачаў круціць руль і так і гэтак.

Самалёт, не звяртаючы ўвагі на пілота, ляцеў сабе на поўднёвы захад.

А тым часам наперадзе набліжалася гара. Абмінуць яе нельга... А ці можна будзе ўзняцца ўверх? Боўтар узяў руль на сябе — і абодва лётчыкі затаілі дыханне: «Ці падымецца?»

Самалёт, як звычайна, стаў набіраць вышыню. Калі ён падняўся над гарой, наперадзе заблішчэла на сонцы мора.

Лётчыкам стала ясна: руль самалёта заклініў нейкі выстрал, якога яны не заўважылі. Цяпер самалёт ляціць у мора. А што будзе далей?..

— Паспрабуй звязацца з базай, — сказаў Боўтар.

— Я гэта і збіраюся рабіць, — адказаў штурман, уключаючы перадатчык.

Праз ларынгафон * ён пачаў крычаць:

— Ало! Я — каршун! Я — каршун! Выклікаю арла! Выклікаю арла! Я — каршун!..

Праз некалькі хвілін штурман усклікнуў:

— Чорт вазьмі! Праз прыёмнік гукі чую, а мой выклік не даходзіць. Значыцца, і перадатчык папсаваны.

Самалёт тым часам быў ужо над морам.

— Куды мы ляцім? — глуха спытаў Боўтар.

Штурман глянуў на карту і адказаў:

— Калі ўвесь час так будзем ляцець, то выйдзем на бераг Кітая.

— Ты згодзен трапіць кітайцам у рукі? — зноў спытаў Боўтар.

— Гэта ад мяне не залежыць, — адказаў Гартвіг.

Некалькі мінут ляцелі моўчкі, аглядаючы мора. Каб самалёт ішоў лявей, уздоўж заходняга берага Карэі, то можна было-б напаткаць свой карабель і выкінуцца з парашутам. А тут наогул ніякіх караблёў не было відаць. Дзе-ні-дзе ледзь вызначаўся парус рыбацкай лодкі, і больш нічога. Далёка на поўдні дыміў ваенны карабель, вядома, свой, амерыканскі. Але дапамагчы ён не зможа...

— Колькі будзе да кітайскага берага? — спытаў Боўтар.

— Міль дзвесце.

— Праз гадзіну будзем там, — прамовіў Боўтар.

Яны змоўклі, думаючы, што рабіць. Становішча было недарэчнае: сядзі і чакай, куды цябе занясе самалёт. У пілота пад сядзеннем была складная лодка. Ці не выкінуцца з ёю ім у мора? Але па ўсім відаць, што тут нікога не дачакаешся. Лепей ужо прыляцець у палон. Аб гэтым яны падумалі абодва разам, а штурман, нібы адказваючы сам сабе, сказаў:

— Цяпер-жа перамір'е. Трэба думаць, што яны нам нічога дрэннага не зробяць.

— Вядома, лепей будзе, чым скакаць у мора, — згадзіўся Боўтар.

Яны трошкі супакоіліся. Пілот нават паддаў газу, каб хутчэй даляцець да жаданага берага. І так ляцелі мінут сорак. За гэты час яны пачалі думаць зусім на іншы лад. Прызямліцца яны змогуць у Кітаі, а праз некалькі дзён усіх палонных адпусцяць, і яны вернуцца ў Поўднёвую Карэю ці Японію. А потым, напэўна, знойдзецца яшчэ якая-небудзь вайна, напрыклад, у Індакітаі. І можна будзе прадоўжыць свой бізнес. Боўтар вернецца да сваёй сям'і, пабудуе фабрыку, выпусціць акцыі і арганізуе буйную фірму з гучнай назвай: «Фрэнк Боўтар і К⁰». Гартвіг ажэніцца з Кэт і зробіцца кампан'ёнам фабрыкі рагожаў пад фірмай «Джон Арманд энд Эрвін Гартвіг».

Сонца свяціла акурат у вочы, і лётчыкі доўга не бачылі таго, што робіцца наперадзе. А калі сонца адхілілася направа, то яны далёка-далёка ўбачылі бераг. І абодвум ім зрабілася лягчэй на сэрцы, нібы яны набліжаліся да радзімы.

А праз некалькі мінут штурман сказаў:

— Вецер паварочвае наш самалёт на поўдзень...

І сапраўды, можна было заўважыць, як нос самалёта адхіліўся ўлева. Цяпер наперадзе была неабсяжная водная прастора. Боўтар аж заскрыгатаў зубамі. Са скажоным тварам пачаў ён круціць руль, але нічога з гэтага не выйшла. Хоць-бы крышачку, хоць-бы на некалькі градусаў павярнуць-бы хвост управа... Але самалёт упэўнена ішоў у адкрытае мора ды яшчэ больш адхіляўся ад берага. Сэрцы лётчыкаў скамянелі.

— Куды-ж мы цяпер ляцім? — у роспачы спытаў Боўтар.

* Ларынгафон — мікрафон, які перадае словы не па гуку, а па вібрацыі горла, бо на самалёце маторы заглушаюць голас.

— Карты гэтага раёна ў нас няма, — адказаў штурман, — прыблізна-ж можна меркаваць, што на Тайвань або Філіпіны. Каб даляцець туды, мы былі-б дома.

— А колькі будзе датуль?

— Дакладна сказаць не магу, а думаю, што паўтары-дзве тысячы кіламетраў будзе.

Боўтар паглядзеў на паказчык гаручага і сказаў:

— Гаручага хопіць не больш, як на чатыраста...

Тым часам самалёт яшчэ больш адхіліўся ад берага і паляцеў «куды вочы глядзяць». Сонца пачынала свяціць ззаду, а наперадзе вызначаўся непраглядны змрок. Адтуль ішла ноч, і ў гэтую ноч ляцелі два амерыканцы. Караблёў сустракалася вельмі мала, бо самі-ж амерыканцы перашкаджалі суднаходству у гэтых водах. А калі трапіцца якое судна, то накіраваць на яго самалёт немагчыма; так і размінуцца на якой-небудзь мілі адзін ад аднаго.

Твар Боўтара зусім пацямнеў. Губы сціснуліся яшчэ больш і падаліся ўнутр, як у беззубага старога. Вочы яшчэ глыбей схаваліся пад брывямі і паблісквалі адтуль халоднымі агеньчыкамі. Увесь свет для Боўтара абмежаваўся цяпер трыма рэчамі: ён сам, кабіна самалёта і кавалак мора перад ім. Больш на свеце нічога не было — ні мора па баках, ніякіх спраў на свеце, ні таварыша побач з ім. Была толькі адна думка: як выратавацца ад пагібелі? Да сушы не даляцець, звязацца з караблём — мала шансаў, значыцца, прыдзецца апускацца ў моры абы дзе. І апускацца, вядома, на парашуце. А для гэтага трэба падымацца вышэй, бо інакш парашут не паспее распусціцца. А калі падымешся вышэй, то будзе менш шансаў звярнуць на сябе ўвагу карабля.

Боўтар пачаў прыладжваць свой парашут, падрыхтоўваць складную гумавую лодку, якая была прывязана да яго поясам. Каб Боўтар мог праанaлізаваць цяпер сваё пачуццё то пазінен быў-бы прызнаць, што не страх валодае ім, а злосць. Лютая злосць, якая перамагла нават страх смерці. Злосць на тое, што сёння раніцай ён сам напрасіўся ў гэты палёт, злосць на карэйцаў, праз якіх ён павінен цяпер загінуць, злосць на самалёт, які так лёгка даў сябе папсаваць, злосць на вецер, які павярнуў самалёт ад кітайскага берага, злосць на кітайцаў, якія чамусьці тут не ездзяць і не ловяць рыбу, злосць на ўсіх тых, хто спакойна цяпер сядзіць дома і не чакае ніякай смерці, злосць на свайго штурмана, які нічога добрага не мог зрабіць...

А Гартвіг быў ва ўладзе страху. У галаве яго мільгалі ўрыўкі ўсялякіх думак: боязнь за свае грошы і апаска перад халоднай вадой. Ён не мог засярoдзіцца на пэўнай думцы, а пераскокваў з адной на другую. Ён таксама пачаў прыладжваць свой парашут і з зайздрасцю паглядаў на гумавую лодку. Чаму яна ў пілота, а не ў штурмана? Штурман сочыць за курсам, пракладвае дарогу, а лодка чамусьці не ў яго, а ў пілота!.. Гэта няправільна. Глянуўшы яшчэ на каменны твар Боўтара, Гартвіг адчуў, як у яго заварушылася непрыязнь да свайго таварыша. Ім прыдзецца выкідвацца праз люк не разам, а адзін за другім. І хоць гэта будзе ўслед, але нейкія хвілінкі паміж пройдуць. А за гэтыя хвілінкі самалёт можа праляцець кіламетр, а то і болей. Значыцца, на вадзе яны апынуцца адзін ад аднаго на нейкай адлегласці. Добра будзе яму ў лодцы... А мне як?.. Нават калі ён будзе старацца зблізіцца, то і тады нялёгка гэта зрабіць. А калі ён не захоча? У лодцы ёсць харчы, а каму ахвота дзяліцца імі, калі смерць на носе?..

Далёка на гарызонце паказаўся карабель. Штурман паглядзеў у бінокль і радасна крыкнуў:

— Наш дрэдноут! Ідзе ён акурат на нас. Будзем рыхтавацца да спуску на яго вачах.

Яны адвязалі сябе ад сядзенняў, праверылі, ці адчыняецца люк і нарыхтавалі парашуты. Боўтар падняў самалёт вышэй. І тут, на вышыні, іх ударыў у бок струмень паветра.

— Вецер збоку!! — з жахам закрычаў штурман. — Назад!

Але ўжо было позна. Хоць пілот і знізіў вышыню, але самалёт ужо атрымаў штуршок і павярнуўся на некалькі градусаў улева. А паколькі дрэдноут быў вельмі далёка, то гэтыя некалькі градусаў няўхільна сталі павялічвацца. Лётчыкі замітусіліся.

— Усёроўна буду кідацца! — захрыпеў Боўтар і адчыніў люк.

Вецер уварваўся ў кабіну. Гартвіг інстынктыўна ўхапіўся за пілота.

— Рукі прэч! — грозна крыкнуў Боўтар.

— Разам трэба нам кідацца, разам! — дрыжачым голасам казаў Гартвіг.

Ён падумаў пры гэтым, што камандзір павінен пакідаць карабель апошнім, але сказаць пра гэта не адважыўся. Тым больш, што самалёт і дрэдноут ішлі цяпер у розныя бакі на адлегласці міль пятнаццаці.

— Позна ўжо, — ціха сказаў Гартвіг і млява апусціўся на сваё крэсла.

— Усёроўна трэба кідацца, — глуха сказаў Боўтар. — Праз дзесяць мінут самалёт сам зваліцца ў мора.

Боўтар уключыў аўтапілот і пачаў вылазіць з люка. Ён не бачыў, як Гартвіг выняў з кішэні нож і раскрыў яго. Пілот высунуўся з люка. За спіной яго цягнуўся парашут, а ніжэй за ім — лодка. Гартвіг узяў і адрэзаў яе нажом. Моцна ўхапіўшы лодку рукою, Гартвіг прасоўваўся следам за Боўтарам. Калі той нарыхтаваўся ўжо скокнуць, то заўважыў, што лодкі няма.

— Дзе лодка? — закрычаў ён праз вецер і ўбачыў яе ў руках Гартвіга. — Ах ты, здраднік! Падлюга! — зароў Боўтар і паімкнуўся быў да Гартвіга. Але той штурхнуў яго і крыкнуў:

— Кідайся хутчэй, яна з намі.

Боўтар паляцеў уніз, а Гартвіг пачакаў, пакуль самалёт праляцеў кілометры са два, і тады ўжо кінуўся сам.

Адначасова з раскрыццём парашута Боўтар уключыў газ, каб надзьмуць свой выратавальны пояс. Гэта дало яму магчымасць спакойна вызваліцца ад парашута і застацца на вадзе. Ён паглядзеў у той бок, куды паляцеў самалёт, але нічога ўжо не ўбачыў. Ці далёка знаходзіцца Гартвіг? Боўтар пачаў крычаць. Крычаў гучна, доўга, але ніякага адказу не было. Тады ён паплыў у той бок. Праплыве некаторую адлегласць, потым зноў пачне крычаць. Так ён працаваў гадзіны дзве, патраціў усе свае сілы і голас. Трывожна стала на душы. А што, калі Гартвіг наўмысля маўчыць? Можа нават ён наўмысля апусціўся далёка? Усяго можна чакаць ад такога падлюгі. Як гэта ашукаўся такі вопытны чалавек, як Боўтар! Трэба было спачатку застрэліць гэтага гада, а потым ужо выскокваць. Нават каб яны былі тут разам, усёроўна Гартвіг быў-бы лішні: і месца яму трэба, і прадукты давай. А цяпер вышла наадварот — ён, Боўтар, заставаўся лішнім, а лодкай і прадуктамі авалодваў другі. І да ўсёй ранейшай злосці далучылася пякучая злосць не толькі на свайго былога таварыша, але і на сябе самога. Гэткім дурнем застацца! Пякучая злосць так ахапіла Боўтара, што ён не адчуваў холаду вады і забыўся на ўсё ў свеце — і на сям'ю, і на свае планы, і нават аб сваёй смерці пакуль што не надта думаў.

Пацягнуўся час, доўгі, жудасны. Мора ціха калыхалася. Калі Боўтар падымаўся на хвалю, адтуль ён мог зірнуць на гарызонт. Але з паверхні вады мала чаго можна было ўбачыць. Толькі альбатрос адзін раз пацікавіўся, што гэта за штука плавае. Некалькі разоў Боўтар бачыў дымкі далёкіх параходаў, але горш за ўсё было тады, калі адзін параход у змроку прайшоў досыць блізка. Пасля гэтай сустрэчы Боўтар адчуў, што зусім страціў голас...

Надышла ноч, халаднаватая, цёмная. Вецер патрохі мацнеў. Боўтар здубянеў ад холаду, яго мучыла смага. Безнадзейнасць адняла ад яго апошнія сілы. Колькі часу прыдзецца яму так боўтацца? Ці праўда, што ён усяго толькі некалькі гадзін назад вылецеў з дому?..

Пачуцці Боўтара прытупіліся, сілы зусім зніклі. Ужо нехапала іх нават на злосць: усё зрабілася абыякавым. У глыбіні душы зацепліліся чалавечыя пачуцці. Што цяпер робіць жонка, дзеці? Ці думаюць яны аб ім? Як хочацца пабачыць іх хоць разок! Можна нават плюнуць на ўсе грошы, каб толькі жыць у сям'і, ціха, спакойна...

Вецер узмацняўся, хвалі калыхалі Боўтара, навявалі сон...



... Гартвіг спусціўся на ваду таксама з надзьмутым поясам. Ён адвязаў парашут і разгарнуў лодку. Затым пусціў у яе сціснуты газ з прымацаванага балона. Берагі лодкі з сіпеннем пачалі надзімацца, і праз некалькі мінут Гартвіг меў перад сабой сухое, утульнае месца. Улезці ў лодку было цяжкавата, але Гартвіг здагадаўся спускаць свой пояс усё ніжэй і ніжэй на ногі і такім чынам забраўся ў сярэдзіну.

Першая небяспека мінула. Але што рабіць далей? Шукаць Боўтара? А ліха з ім! Чаго там думаць пра другога, калі яшчэ невядома, як выратавацца самому. Каб блізка быў карабель ці зямля, то ўдвох пратрымацца можна было-б. А калі прыдзецца загінуць у гэтай лодцы, то ўсёроўна ці абодвум разам, ці паасобку. У гэты момант вецер данёс да Гартвіга далёкі крык:

— О-о-о!.. Э-э-э!.. І-і-і!..

Гартвіг збянтэжыўся. Гэта-ж таварыш кліча яго, просіць дапамогі... Гартвіг павінен дапамагчы яму... А дзеля чаго? Каб разам загінуць? Каб Гартвіг быў на яго месцы, Боўтар наўрад ці імкнуўся-б яго ратаваць. Вось чаму ён так вызверыўся, калі ўбачыў, што лодка апынулася ў руках Гартвіга. Не, не варта турбавацца. Не такі чалавек гэты Боўтар, каб яго шкадаваць. Але крыкі паўтараліся. Гартвіг адчуў сябе вельмі няёмка і нарэшце, закрыўшы рукамі вушы, лёг на дно лодкі.

Крыкі спыніліся. Сонца грэла пяшчотна і, галоўнае, сушыла адзенне. Стомлены Гартвіг заснуў. Ён убачыў сябе ў раскошнай машыне на Уол-Стрыце. Побач з ім сядзела Кэт. Яны пад'ехалі да аднаго небаскроба. «Глядзі», сказаў ён Кэт. Яны ўбачылі на сцяне небаскроба вогненныя літары: «Лепшыя рагожы ў свеце! Эрвін і Кэт Гартвіг». Яны вышлі з машыны, і Гартвіг адчуў моцны холад...

Прачнуўся, сеў — і ўся душа яго заныла. Як далёка ён быў ад сну! Сонца, відаць, даўно зайшло. Была халодная, неспакойная ноч. Вецер за гэты час змяніўся: ён дзьмуў з мора і адносіў лодку да берага. Але ён быў такі моцны, што кідаў яе, як шалупайку. Гартвіг зноў лёг на дно лодкі, на гэты раз тварам уніз, і замёр. Калыханне затуманіла яму галаву, і ён ляжаў, нібы ў непрытомнасці, доўгадоўга. А вецер усё мацнеў і мацнеў. Потым недзе далёка пачуўся грукат грому. Праз сплюшчаныя вочы Гартвіг адчуў бліскавіцу. Але ён не варушыўся. Можа нават і не могбы, каб і хацеў.

А хвалі ўсё раслі і раслі. Калі лодка з верхавіны вадзяной гары ляцела ўніз, штурману здавалася, што ён на самалёце правальваецца ў паветраную яму.

І вось у час аднаго такога правалу ён адчуў, што лодка аб нешта стукнулася. Што гэта? Ці не зямля? — мільганула ў галаве Гартвіга. Ён ускапіўся і пры святле маланкі ўбачыў ля борта... Боўтара! Ён быў яшчэ жывы. Злосць, як электрычны ток, страсанула ўсё яго цела. Здавалася, усе сілы вярнуліся да яго: ён зарыкаў, як звер, і ўчапіўся за борт лодкі. Гартвіг пачаў біць яго па руках, драпаць пальцамі, нават нахіліўся ўкусіць, але атрымаў такі ўдар кулаком, што паваліўся на дно лодкі. А яна пад цяжарам Боўтара стаяла бадай што рубам.

Чарговая хваля падняла яе яшчэ вышэй і перакуліла на галаву Боўтара. Апошні ўздым сілы згас. Боўтар паваліўся на свой пояс галавой у ваду ды так і застаўся....

А Гартвіг яшчэ некалькі часу крычаў ад жаху, а потым... знік.

# МАЛЕНСТВА БЕЗ РАДАСЦІ І ШЧАСЦЯ

Першага чэрвеня працоўныя ўсіх краін адзначылі Міжнародны дзень абароны дзяцей.

Жахлівы лёс дзяцей у капіталістычных краінах. Больш 80 мільёнаў дзяцей працоўных у краінах капіталу жабруюць, пакутуюць ад голаду і холаду. З малых год яны зазнаюць ужо ўсе нястачы жыцця, цяжар непасільнай працы, бязлітасную эксплуатацыю і здзекі. Яны жывуць у брудных і поўразбураных трушчобах, на вуліцах і дварах, яны пазбаўлены шчаслівага і радаснага дзяцінства.

У Злучаных Штатах Амерыкі больш 2 мільёнаў сірат начуюць на вуліцах. Каля 6 мільёнаў амерыканскіх дзяцей не могуць наведваць школу. Нястача і голад гоняць мільёны дзяцей на фабрыкі, заводы і фермы; кожны год звыш мільёна пакідае школу і ідзе шукаць работы. Праца маленькага рабочага аплачваецца капіталістамі вельмі танна і складае нярэдка толькі восьмую частку заработку дарослага. А між тым дзеці працуюць, так як і дарослыя, па дванаццаць і больш гадзін.

Такую карціну можна наглядаць у кожнай капіталістычнай краіне. У Японіі маленькія працаўнікі складаюць амаль чвэрць агульнага ліку рабочых. Тысячы дзяцей, худых і абарваных, блукаюць па вуліцах Токіо і іншых гарадоў краіны, просячы міласціну. Нават паводле афіцыйных звестак, у краіне больш 2 мільёнаў беспрытульных дзяцей. Многія японскія сяляне-беднякі вымушаны сваіх дзяцей прадаваць. Бываюць месяцы, калі колькасць прададных дасягае 5 тысяч.

Жудаснае становішча дзяцей у манарха-фашысцкай Грэцыі. Па гарадах краіны бадзяюцца тысячы беспрытульных, бацькі якіх загінулі ў час вайны або пакутуюць у турмах і канцэнтрацыйных лагерах. Паводле афіцыйнай статыстыкі, толькі ў гарадах Афіны і Пірэй не менш 50 тысяч дзяцей не мае прытулку. Смяротнасць сярод дзяцей у Грэцыі даходзіць да 60—70 працэнтаў. Тэрор манарха-фашыстаў абрушваецца не толькі на дарослых барацьбітоў за мір. Сотні дзяцей былі падвергнуты катаванням, многія і цяпер знаходзяцца ў зняволенні ў канцэнтрацыйных лагерах і турмах.

Не лепшы лёс дзяцей і ў Турцыі, дзе на першым годзе жыцця памірае да 80 працэнтаў, і ў Італіі, і ў Заходняй Германіі, і ва ўсіх іншых капіталістычных краінах. Усюды тут дзеці — гэта маленькія рабы, пазбаўленыя клопатаў аб выхаванні, аб вучобе і росце.

Вось чаму мільёны простых людзей свету няспынна вядуць барацьбу за палепшанне ўмоў жыцця працоўных, за мір і дэмакратыю. Іх натхняе вялікі прыклад Савецкага Саюза, краіны, дзе растуць самыя шчаслівыя дзеці ў свеце.

На гэтай старонцы вы бачыце здымкі, якія красамоўна сведчаць аб лёсе дзяцей у капіталістычных краінах. На здымку ўверсе злева — жыллё рабочай сям'і ў горадзе Сан-Антоніо (ЗША). У гэтай хаціне, зробленай з брызенту, дзяругі і кардону, знаходзіць прытулак сям'я з дзесяці чалавек.

Так вучацца негрыцянскія дзеці. Сеўшы ў круг проста на вуліцы, хлопчыкі і дзяўчынкі слухаюць тлумачэнні настаўніка. Але нават такіх «школ» у Поўднёвай Афрыцы вельмі мала.

На здымку ўнізе — дзеці-жабракі на мосце ў Токіо.

У адным з гарадоў Заходняй Германіі. Па вуліцы ідзе мужчына, на яго плячах стаіць хлопчык з плакатам на грудзях. «Хто дасць майму тату работу!» — напісана на плакаце.














Гэты хлопчык працуе ў канатных майстэрнях горада Фатамаджорэ ў Поўднёвай Італіі. За сваю знясільваючую ручную працу ён атрымлівае лічаныя грашы.

Маленькі чысцільшчык амерыканскі хлопчык Данальд Мэньюс, які жыве ў горадзе Сен-Луі. Яму толькі сем год. З раніцы да вечара ён працуе шчоткамі і суконкамі, каб зарабіць сабе на пражыццё.

# САГРЭТЫЯ ЛАСКАЙ РАДЗІМЫ

Шчаслівыя дзеці краіны соцыялізма! Яны не ведаюць жахаў капіталістычнага свету, не ведаюць нястачы, голаду і нягоды. Совецкія дзеці акружаны ўсенароднымі клопатамі, сагрэты і атулены ласкай дарагой маці-Радзімы. Комуністычная партыя робіць усё для таго, каб вырасціць высокаадукаваных, здаровых совецкіх людзей, бясконца адданых сваёй соцыялістычнай Айчыне.

Совецкая краіна дала дзецям усё, што неабходна для іх выхавання. Сотні тысяч школ з добра абсталяванымі фізкультурнымі заламі, з кабінетамі адкрыты ва ўсіх кутках нашай Радзімы. У буйных гарадах і прамысловых цэнтрах зараз ажыццяўляецца абавязковае дзесяцігадовае навучанне.

У нас няма беспрытульных дзяцей-сірат. Дзеці загінуўшых воінаў Вялікай Айчыннай вайны знайшлі сабе прытулак і бацькоўскія клопаты ў дзіцячых дамах і суворaўскіх вучылішчах, у школах фабрычна-заводскага навучання і іншых спецыяльных школах. Радзіма забяспечыла іх усім неабходным.

Цікаўныя, радасныя, совецкія дзеці маюць усе магчымасці развіваць свае здольнасці. Для іх адкрыты тысячы палацаў піонераў, станцый юных натуралістаў і мічурынцаў, дамоў юнага тэхніка, станцый падарожнікаў і альпіністаў, стадыёнаў, фізкультурных пляцовак, пабудаваны дзіцячыя чыгункі. Вучыся, загартоўвайся, расці! — з пяшчотай гаворыць совецкі народ сваім дзецям.

А колькі цікавага сустрэне совецкая дзетвара летам! Незабыўнымі застаюцца піонерскія паходы з начнымі кастрамі ў лесе, напоўнены рознастайнымі прыгодамі адпачынак у піонерскім лагеры, шлюпачныя паходы па рэках, ружовыя раніцы на рыбалцы, экскурсіі ў месцы размяшчэння партызанскіх брыгад.

Усё, што вабіць совецкіх дзяцей, што дорага іх дзіцячаму сэрцу, — усё гэта наша краіна з бацькоўскай шчодрасцю прадастаўляе ў іх распараджэнне.





На верхнім здымку вы бачыце совецкіх дзяцей у Крэмлі. Там ля навагодняй ёлкі сустракалі сёлетні Новы год піонеры і школьнікі Масквы і дзесяткаў іншых гарадоў краіны. Перад дзецьмі былі адкрыты ўсе самыя дарагія скарбы рускага народа — яны пабывалі ў Аружэйнай палаце, агледзелі геніяльныя тварэнні рускіх архітэктараў, пабывалі каля Цар-звона і Цар-пушкі. З вялікім хваляваннем пакідалі дзеці старажытны Крэмль, над якім незгасальна гараць зоркі іх шчасця.

На другім здымку — Палац піонераў імя Н. Остроўскага ў Ташкенце. Тут працуюць дзесяткі самых рознастайных гурткоў. Гэта адзін з лепшых палацаў піонераў у краіне. Вось чаму яго наведваюць сотні дзяцей працоўных.

Яшчэ адзін здымак. Вы бачыце сканцэнтраваныя на нейкай думцы позіркі дзяцей. Гэта група вучняў Парэцкай сярэдняй школы Гродзенскай вобласці ў турысцкім паходзе. Дзеці вырашаюць складаную задачу.

Змястоўна і весела праводзіць свой час самая шчаслівая ў свеце совецкая дзетвара.

Здымкі фотахронікі ТАСС і нашага фотакора А. Дзітлава.



# Міхась і Маргарыта Крываносавы

**Юрый БАГУШЭВІЧ**

Цэнтральны стадыён Мінска быў па-святочнаму ўпрыгожаны. На яго бегавых дарожках, на сектарах для мятання, прыжкоў спаборнічалі мацнейшыя лёгкаатлеты Беларусі, змагаліся за ганаровае званне чэмпіёнаў рэспублікі.

Сярод жанчын, якія мяталі дыск, прэтэндэнткамі на заваяванне пяршынства былі рэкардсменка рэспублікі Ларыса Галякіна і маладая мятацельніца Маргарыта Ганчарык.

Радыёінфарматар абвясціў:

— У круг для мятанняў выклікаецца Маргарыта Ганчарык. Па папярэдніх кіданнях яна мае лепшы вынік.

Стройная, загарэлая дзяўчына падрыхтавалася, каб кінуць дыск. І калі яна, імкліва павярнуўшыся ў крузе, кінула спартыўны снарад, гледачы на трыбунах шумна заапладыравалі. Дзяўчына кінула дыск далей за ўсіх.

Радыёінфарматар уключыў мікрафон і падрыхтаваўся абвясціць пра перамогу спартсменкі. Але ён не ўправіўся зрабіць гэта. Да яго падышла Маргарыта і сказала:

— Я вас прашу... абвясціце маё цяперашняе прозвішча.

І тады гледачы і ўдзельнікі рэспубліканскага пяршынства пачулі:

— Першае месца і званне чэмпіёна рэспублікі па мятанню дыска сярод жанчын заваявала... Маргарыта Крываносава.

Сябры па камандзе і знаёмыя пачалі горача віншаваць Маргарыту. Многія ведалі аб яе дружбе з Міхасём Крываносавым. Гэта адбылося летам мінулага года.

Рознымі шляхамі прышлі Міхась і Маргарыта да аднаго віду спорту — лёгкай атлетыкі. Міхась Крываносаў нарадзіўся і вырас у невялікім беларускім горадзе Крычаве. Яго дзядзька, майстар спорту Яфім Чаусаў, першы заўважыў у ім здольнасці да спорту. Ён параіў яму паступіць у тэхнікум фізкультуры. Праз год Міхась ужо быў лыжнікам другога разраду. Акрамя таго, Крываносаў праявіў сябе здольным барцом.

Але тэхнікум, дзе займаўся Крываносаў, знаходзіўся пад Масквой, а юнака цягнула назад у родную Беларусь. Міхась ведаў, што ў Мінску ёсць інстытут фізічнай культуры, і ён вырашыў працягваць вучобу ў Мінску. Тут Крываносаў сустрэў аднаго з вопытнейшых трэнераў па лёгкай атлетыцы — Яўгена Міхайлавіча Шукевіча. Шукевіч дапамог Міхасю стаць лёгкаатлетам. Трэнер пераканаў Крываносава, што да яго фізічных даных — высокага росту, вялікай сілы — больш за ўсё падыходзіць мятанне молата і дыска.

Цяжка ўдасканальваць спартыўнае майстэрства. Толькі людзі з моцнай воляй, здольныя не разгубіцца перад цяжкасцямі, перад няўдачамі на гэтым шляху, дасягаюць поспеху. Такім валявым і працалюбівым спартсменам аказаўся Крываносаў. Ён трэніраваўся сістэматычна зімой і летам. Яго дзень быў распісаны па мінутах. Разам з напружанай акадэмічнай вучобай у інстытуце Міхась пад кіраўніцтвам Шукевіча старанна выпрацоўваў кожны свой рух, што папярэднічае магутнаму рыўку, і з кожным разам снарад ляцеў усё далей і далей.

Мінулі гады ўпартых, настойлівых заняткаў. Спачатку Крываносаў зрабіўся мацнейшым спартсменам па кіданню молата і дыска ў Беларусі. Потым ён увайшоў у шэраг вядучых майстроў Совецкага Саюза. У 1951 годзе малады майстар заваяваў званне чэмпіёна Совецкага Саюза па кіданню молата.

Залаты медаль чэмпіёна Совецкага Саюза да многага абавязвае. І комсамолец Крываносаў вырашыў адказаць на ўзнагароду ўстанаўленнем новага рэкорду. На паказальных спаборніцтвах у Казахстане ён кінуў молат на 59 метраў 18 сантыметраў. Гэта быў новы рэкорд Совецкага Саюза.

Ужо заканчваўся спартыўны сезон для лёгкаатлетаў. Ужо рыхтаваліся да сваіх выступленняў канькабежцы, хакеісты і лыжнікі. Але Міхась Крываносаў адчуваў, што ён можа палепшыць свой поспех. Група мацнейшых майстроў лёгкаатлетаў знаходзілася ў тыя дні ў Ташкенце. Сярод іх быў і беларускі спартсмен Крываносаў. У спартыўных спаборніцтвах ён першым з совецкіх спартсменаў здолеў кінуць молат за 60 метраў і такім чынам увайшоў у лік мацнейшых спартсменаў свету.

Прыкладна ў тыя-ж гады, калі Міхась Крываносаў пачынаў займацца лёгкай атлетыкай, мінская школьніца Маргарыта Ганчарык вышла на старт сваіх першых спартыўных дасягненняў. Яна паказала добрыя вынікі ў штурханні ядра і мятанні дыска. Але першым настаўнікам яе ў спорце быў адзін з вопытных трэнераў па гімнастыцы Іван Фёдаравіч Пяхотны. І Маргарыта, якой лёгка даваліся складаныя практыкаванні на паралельных бруссях, турніку, кольцах, неўзабаве стала гімнасткай другога разраду.

Як і Міхась, Маргарыта хутка адчула, што яе прызванне не ў гімнастыцы. Магчыма, на рашэнне дзяўчыны займацца лёгкай атлетыкай аказала ўплыў і дружба з Крываносавым, і знаёмства з Яўгенам Міхайлавічам Шукевічам. Так ці інакш, ужо будучы студэнткай Мінскага інстытута фізкультуры, Маргарыта пачала выступаць на спаборніцтвах як мятацельніца дыска.

Багаты сваімі дасягненнямі совецкі спорт. У розных гарадах, у розных брацкіх рэспубліках настойліва ўдасканальваюць сваё майстэрства юнакі і дзяўчаты — шматлікая армія совецкіх спартсменаў. Далёка ад Беларусі, у сонечным Баку, зацікавіла кіданне молата школьніка Нянашава. З кожным сезонам ён дабіваўся ўсё лепшых і лепшых вынікаў, а потым стаў рэкардсменам Совецкага Саюза сярод юнакоў. Прышоў час, калі Нянашаў пачаў кідаць не палегчаны юнацкі молат, а такі самы, як і Крываносаў. Вырас яшчэ адзін новы прадстаўнік маладой змены!

Мінулай восенню Міхась Крываносаў выступаў за мяжой. Разам з групай мацнейшых совецкіх спартсменаў ён наведаў краіны народнай дэмакратыі. Выступаў ён на стадыёнах Венгрыі, Нарвегіі. Тут, у Осло, сустрэўся ён з рэкардсменам свету па кіданню молата Страндлі. Молат, які кінуў Міхась, апусціўся крышку бліжэй, чым молат рэкардсмена свету. Пасля Нарвегіі совецкія спартсмены наведалі Швецыю. У шведскім горадзе Мальме, у гарадах Упсалі і Эрбру совецкія лёгкаатлеты спаборнічалі і са шведамі, і з нарвежцамі, і з фінамі. Апошняе спаборніцтва паміж двума мацнейшымі ў свеце мятацелямі — Страндлі і Крываносавым — адбылося ў Эрбру. І тут Міхась узяў рэванш. Яго молат праляцеў 58 метраў 86 сантыметраў. Страндлі прайграў Крываносаву 76 сантыметраў. Усюды, дзе-б ні выступалі пасланцы нашай краіны, іх цёпла сустракалі працоўныя, радаваліся іх поспехам.

Вярнуўшыся ў родны Мінск, Міхась Крываносаў, як адзін з лепшых выпускнікоў Інстытута фізкультуры, быў прызначаны выкладчыкам кафедры лёгкай атлетыкі. У вольны ад работы час ён удасканальвае сваё спартыўнае майстэрства.

У адзін з асенніх дзён тэлеграф прынёс паведамленне, што ў Баку на лёгкаатлетычных спаборніцтвах майстар спорту Нянашаў устанавіў новы ўсесаюзны рэкорд, кінуўшы молат на 60 метраў 70 сантыметраў. Рэкорд Міхася Крываносава быў палепшаны Нянашавым на 19 сантыметраў.

Вялікая радасць для спартсменаў — новы рэкорд! Але разам з тым спартсмены Беларусі чакалі, што Крываносаў адкажа новымі дасягненнямі. Зімой гэта, праўда, зрабіць было цяжка. Але вынікі зімы звычайна з'яўляюцца заяўкай на дасягненне ў летнім спартыўным сезоне. І вось у Ленінградзе на зімнім пяршынстве СССР па лёгкай атлетыцы адбылася сустрэча Крываносава і Нянашава. Яшчэ ў пачатку спаборніцтва Крываносаў кінуў молат далей за Нянашава. Другі раз яны сустрэліся ў фінале, дзе канчаткова выявілася поўная перавага беларускага спартсмена.

З добрымі вынікамі закончыла спартыўны сезон 1953 года і Маргарыта Крываносава. Выступаючы на ўсесаюзным пяршынстве профсаюзных лёгкаатлетаў, яна ўстанавіла новы беларускі рэкорд па мятанню дыска — 44 метры 95 сантыметраў.

Выступаючы ў 1954 годзе ў Нальчыку на спаборніцтвах мацнейшых лёгкаатлетаў Совецкага Саюза, прысвечаных Міжнароднаму святу працоўных — Першаму мая, Міхась Крываносаў кінуў молат на 60 метраў і 64 сантыметры. Такім чынам ён стаў рэкардсменам нашай краіны.

Совецкія спартсмены ўсё больш упэўнена заваёўваюць першыя месцы на сусветнай арэне. Прадстаўнікамі совецкага спорту і з'яўляюцца комсамольцы Міхась і Маргарыта Крываносавы. Перад сям'ёй рэкардсменаў вялікі і шырокі шлях да новых дасягненняў, да новых перамог.



**Міхась Крываносаў на трэніроўцы.**
Фото В. Гундорына.



# 350 спектакляў

Драматычны калектыў Магілёўскага клуба чыгуначнікаў — адзін са старэйшых у рэспубліцы. З дня яго арганізацыі прайшло трыццаць год. У першыя гады свайго існавання самадзейны тэатр аб'ядноўваў невялікую групу аматараў. Паравозныя машыністы, вагоннікі, слесары, токары, рабочыя іншых спецыяльнасцей выступалі з канцэртамі і спектаклямі перад чыгуначнікамі Магілёва, Гомеля, Крычава, Оршы і іншых гарадоў Беларусі. Рэпертуар драматычнага гуртка складаўся тады пераважна з аднаактных п'ес і скетчаў, літаратурных мантажоў, сатырычных аглядаў.



Ішлі гады. Калектыў рос, і яго ўдзельнікі павышалі сваё сцэнічнае майстэрства. Яны вывучалі творы Станіслаўскага, слухалі лекцыі, наладжвалі абменныя спектаклі. Да Вялікай Айчыннай вайны драматычны калектыў чыгуначнікаў ставіў ужо самастойна вялікія, многаактныя п'есы. Былі падрыхтаваны спектаклі «Лес» і «Без віны вінаватыя» Астроўскага і многія іншыя.

Пасля вызвалення Магілёва ад гітлераўскіх акупантаў мастацкі калектыў аднавіў сваю работу. Гурткоўцы хутка падрыхтавалі і паказалі працоўным абласнога цэнтра п'есу Карнейчука «Платон Крэчат». З гэтым спектаклем самадзейны тэатр паспяхова выступіў на Усебеларускім аглядзе мастацкай самадзейнасці. За добрае выкананне калектыў быў узнагароджаны ганаровай граматай Рэспубліканскага Дома народнай творчасці.

Рэпертуар самадзейнага тэатра ўвесь час узбагачаецца новымі творамі. Вялікім поспехам у гледачоў карыстаюцца спектаклі «Макар Дубрава» Карнейчука, «Слава» Гусева, «Разлом» Лаўрэнёва, «Вяселле з пасагам» Дзяканава і многія іншыя.

За трыццаць год на клубнай сцэне пастаўлена 120 многаактавых і 230 аднаактных п'ес савецкіх драматургаў і класікаў рускай драматургіі. Спектаклі прагледзела амаль поўмільёна чалавек. Калектыў выхаваў таленавітых выканаўцаў. Многія з іх сталі прафесіянальнымі акторамі. Былая ўдзельніца самадзейнасці Яўгенія Чэрвінская працуе ва Украінскім дзяржаўным тэатры імя Івана Франко, Людміла Тупчанка — у Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета. На Урале працягвае сваю службу мастацтву Валянціна Ходар. У Магілёўскі клуб чыгуначнікаў часта прыходзяць пісьмы з тэатраў Масквы, многіх рэспубліканскіх і абласных цэнтраў краіны. Былыя гурткоўцы цікавяцца жыццём калектыва, расказваюць аб сваіх творчых поспехах.

Не так даўно самадзейны тэатр чыгуначнікаў паказаў сваю новую работу—п'есу Б. Балабана і В. Сабко «Сто мільёнаў». У галоўных ролях паспяхова выступілі інжынер тэхнічнага бюро Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі С. Скацёнак, токар паравознага дэпо Е. Лаўрэнцьеў, работніца пагрузачнай канторы Е. Лысенка. Прэм'еру цёпла сустрэлі гледачы.

На здымках зверху ўніз:

1. Сцэна з першай дзеі спектакля «Сто мільёнаў». Злева направа: прафесар Карэл Кратаў (выконвае інжынер С. Скацёнак), жонка прафесара Марыя (выканаўца — рахунковы работнік Л. Ходар), Марыко Штынбер (выконвае токар Е. Лаўрэнцьеў).

2. Рахункавод паравознага дэпо станцыі Магілёў Эмілія Канавалава—самая маладая ўдзельніца драматычнага калектыва чыгуначнікаў. У спектаклі «Сто мільёнаў» яна сыграла сваю першую ролю дачкі прафесара Карэла Кратава Ружэны. На здымку — старэйшыя гурткоўцы Н. Скарабагаты і А. Ярош грыміруюць маладую артыстку перад выхадам на сцэну.

3. Спектакль закончыўся. Гледачы ўжо разышліся. Удзельнікі пастаноўкі сабраліся для таго, каб разам са сваім мастацкім кіраўніком З. Серабранскай (у цэнтры) абмеркаваць ігру кожнага артыста.

Фота Ч. Мезіна.

Тэкст Г. Герасімава (БЕЛТА).



# Цікавая з'ява прыроды

Трыццатага чэрвеня жыхары многіх гарадоў і паселішчаў Беларусі стануць сведкамі цікавай з'явы прыроды — поўнага сонечнага зацьмення. Днём неба прыме начны выгляд. Месяц закрые яркі сонечны дыск. У незвычайны для іх час з'явяцца зоркі і сузор'і. Стане бачна знешняя частка атмасферы Сонца, так званая «сонечная карона». Там, дзе было Сонца, можна будзе ўбачыць чорны круг, акаймаваны срабрыстым зззяннем.

Сонечныя зацьменні здаўна выклікаюць цікавасць. Яны дазваляюць праводзіць дасканалыя астранамічныя назіранні, вывучаць Сонца, рабіць шэраг доследаў, звязаных з фізікай, метэаралогіяй і г. д. Зацьменні бываюць не часта, і таму да іх рыхтуюцца загадзя. Сучасны стан навукі дазваляе ведаць аб чакаемых зацьменнях за дзвесце год наперад. Аб зацьменні 30 чэрвеня 1954 года вучоныя ведалі даўно. Яны вылічылі трасу праходжання галоўнай фазы зацьмення, вызначылі пункты, дзе можна будзе найбольш зручна і дакладна весці рознастайныя назіранні.

Вядома, што Сонца па сваіх памерах прыкладна ў чатырыста разоў больш Месяца. Цень, які адкідвае Месяц у сусвет, нагадвае звужаны конус. Даўжыня гэтага конуса крыху змяняецца ў залежнасці ад адлегласці Месяца і Зямлі ад Сонца, але ў сярэднім складае каля 375 тысяч кіламетраў. Прыкладна такая-ж адлегласць ад паверхні Зямлі да Месяца. Перыядычна Зямля закранае канец конуса месячнага ценю. Тады цень Месяца прабягае па зямной паверхні, прачэрчваючы паласу даўжынёй у 10 тысяч кіламетраў і шырынёй каля 270 кіламетраў. Унутры гэтай паласы і бачна поўнае сонечнае зацьменне.

Месячны цень акаймаваны поўценем. Там, дзе пройдзе поўцень, насельніцтва зможа назіраць так званае частковае сонечнае зацьменне. Сонечныя зацьменні бываюць у тыя малазізковыя перыяды, калі Месяц знаходзіцца дастаткова блізка ад пункту перасячэння сваёй арбіты з плоскасцю арбіты Зямлі і становіцца паміж Зямлёй і Сонцам.

Частковае зацьменне пачнецца на стыку граніц з Літоўскай ССР і Польшчай. Гэта адбудзецца ў Беларусі ў 14 гадзін 46 мінут. Праз 12 мінут зацьменне можна будзе назіраць па ўсёй Беларусі.

У паласе поўнага зацьмення будзе знаходзіцца, прыкладна, адна трэцяя частка тэрыторыі Беларусі. Цэнтральная паласа яго пройдзе праз станцыі Нёман, Зарай, Зубкі, непадалёк ад Клецка, праз Чырвоную Слабаду, Старобін, станцыі Міхедавічы, Муляраўку, Мытва і пакіне межы рэспублікі ля Нароўлі. У гэтых пунктах поўнае зацьменне працягнецца ад 2 мінут 25 секунд да 2 мінут 20 секунд. 38 гарадоў і населеных пунктаў рэспублікі знаходзяцца на цэнтральнай лініі поўнага зацьмення альбо паблізу ад яе.

Мінск не знаходзіцца на цэнтральнай лініі зацьмення. Тут гэтая з'ява прыроды будзе частковай. Месяц закрые большую частку Сонца. У Мінску за зацьменнем можна будзе сачыць з 14 гадзін 52 мінут да 17 гадзін 12 мінут.

Для назірання поўнага сонечнага зацьмення ў Беларусь накіроўваюцца Акадэміяй навук СССР дзве навуковыя экспедыцыі. Аб'яднаная група вучоных Усесаюзнага астранома-геадэзічнага таварыства і Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Пацёмкіна абрала месцам сваіх назіранняў Мазырскі раён. У Лідскім раёне будзе знаходзіцца экспедыцыя астранамічнай абсерваторыі Львоўскага універсітэта.

С. НІШЫН.



Помнік Нізамі Гянджэві ў Баку.




# СОВЕЦКІ АЗЕРБАЙДЖАН

## БАКУ

Немагчыма выказаць адразу тое хвалюючае ўражанне, якое апаноўвае кожнага, калі ён глядзіць упершыню на горад, дзе працуе адзін са старэйшых атрадаў рабочага класа нашай краіны; горад, дзе ўзніклі забастоўкі калісьці, быццам іскры пралетарскай рэвалюцыі; горад, з імем якога жывуць у памяці дваццаць шэсць камісараў-ленінцаў.

Сёння — магутны і велічны гэты індустрыяльны горад, сталіца сонечнага Азербайджана. Сярод мноства заводаў і фабрык лёгкай і цяжкай прамысловасці, што выраслі тут за гады совецкай улады, пры знаёмстве, вядома, прыкмячаюцца тыя, нараджэнне якіх абумовіла тутэйшая зямля. Нафта, кажуць, маці агню. Куды ні глянеш, прыкмеціш і адчуеш гэты скарб Апшэрона. Усюды нафтавышкі. На ўзгорках Патандора — вышкі, у лагчыне, над самым морам, — вышкі. Усе ўскраіны Баку хаваюцца ці, як кажуць, тонуць у лесе нафтавых вышак. Гэтыя вышкі нават у моры, якое сіняй, люстранай у пагоду бухтай, плюскочучы, абмывае ўзбярэжжа горада на поўдні. На хвалях бухты — вясёлкі нафтавых скалак. І лёгкі ветрык, што павявае з мора, таксама дыхае на прыезджага салёнай нафтай.

Нафта — багацце Апшэрона, слава Баку на ўсю краіну. Працавітыя качалкі вышак, як жураўлі над студнямі, не завіхаючыся, самі без прысутнасці рабочых пампуюць і пампуюць з глыбокіх нетраў масляністую жыжу. Глядзіш, як адбіваюць яны паклоны зямлі, і пачынаеш разумець характар гэтых механізмаў: думаеш — як шмат год іх працавітым рухам! Як бясконца яшчэ працаваць ім на карысць людзей, бо невычэрпныя залежы ў іх пад зямлёю!..

Вось толькі на зелень скупая глеба. Белы, патрэсканы грунт няшчадна сушаць сонца і вятры.

Аднак у цэнтры горада, на вуліцах, плошчах і парках, спаткаеш расліны, якія растуць у вільготных совецкіх субтропіках. Цудоўны поўднёвы горад!

Плошча Нізамі, бадай, адно з найпрыгажэйшых месц... Над намі блакітнае неба. Вакол абступілі будынкі з асаблівымі, нідзе не паўторнымі, прыёмамі азербайджанскай архітэктуры. Урачыста глядзіць помнік вялікаму паэту-гуманісту Нізамі Гянджэві.

Баку — буйны адміністрацыйны і культурны цэнтр. У сталіцы працуюць Акадэмія навук Азербайджанскай ССР і шматлікія інстытуты, працуюць Тэатр оперы і балета імя М. Ф. Ахундава, Тэатр азербайджанскай драмы імя М. Азізбекава, тэатр рускай драмы, Азербайджанская дзяржаўная філармонія імя М. Магамаева. Кожны дзень запальваюцца рампы гэтых тэатраў, ажываюць кіноэкраны, адчыняюцца дзверы многіх клубаў, умяшчаючы ў сабе дзесяткі тысяч наведвальнікаў. Нядаўна тэатр рабочай самадзейнасці паставіў п'есу Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошні».

Моладзь Баку вясёлая, шумлівая. Вось на пляцоўцы перад гасцініцай «Інтурыст» ідуць спаборніцтвы па баскетболу. Раз-по-раз дружным крыкам задавальнення балельшчыкі адзначаюць кожны гол. А на лаўках узбярэжнага парку, на скверы перад Домам Советаў гурткі студэнтаў з канспектамі. Адсюль недалёчка аўдыторыі Педагагічнага інстытута... Але ёсць і перапынак у падрыхтоўцы да экзаменаў... Побач на плошчы смуглявы матацыкліст, якому справа за плячо адной рукой узялася дзяўчына на веласіпедзе, а з левага боку за яго такім чынам ухапіўся юнак на другім веласіпедзе, яны ўтварылі тройку і катаюцца па кругу, толькі дымок за імі ад матацыкла...

Высокі і велізарны будынак Дома Советаў з вокнамі на мора. Унізе дома прабягаюць машыны, плывуць параходы. Несціхана кіпіць жыццё буйнага горада.

І над усёй сталіцай узвышаецца з працягнутай рукой да сонца Сяргей Міронавіч Кіраў — манументальны помнік устаноўлен на гары ў Комсамольскім парку.

## НАФТАВЫЯ КАМЕННІ

Калі глядзіш на бухту з узвышша Комсамольскага парку, перад вачыма разгортваецца захапляючае відовішча. На прыстані тоўпяцца параходы, якія бухта сцеражэ ад поўночных вятроў і ад шторму на Каспіі. Колькі тут параходаў! Танкеры і дужыя буксіроўшчыкі, грузавыя і пасажырскія, рыбалавецкія сайнеры і таксі-кацеры, маленькія і вялікія, новыя і абшарпаныя — усе снуюць альбо павольна гойдаюцца на ціхіх хвалях. Хто пагружае сабе магутнымі аўтакранамі паклажу, хто дыміць, распаліўшы топкі, перад новым рэйсам, хто адпачывае на лёгкім рамонце. Матросы мыюць палубу. Іграе радыё...

Кожны дзень адсюль у мора адплывае парожні танкер, а вяртаецца глыбока асеўшым у ваду пад цяжарам нафты. Адкуль ён прывозіць яе, дзе ён напаўняе сваё шматтоннае чэрава?

На гэта адказ даюць «Нафтавыя каменні». Незвычайны горад у чыстым моры пад назвай Нафтавыя каменні. Многім ён ужо вядомы з дакументальнага фільма «Аповесць пра нафтавікоў Каспія».

Капітан буксірнага парахода «Казах» Канстанцін Пятровіч Ёсыраў і намеснік камандзіра па палітчасці Іван Мікалаевіч Каменскі расказваюць, як ім даводзіцца рабіць рэйсы да Нафтавых каменняў. Мы стаім на капітанскім мосціку. Далёка ззаду пакінуты маяк Баку. «Казах» рэжа бела-зялёныя хвалі Каспія. Шлях немалы.

Горад, калі так можна сказаць пра безліч нафтавых вышак у моры, вырас нядаўна. Ён узнік з першай вышкі на падводным камені, які ледзь выступаў з вады з дна мора і які калісьці быў прычынай гібелі караблёў. Цяпер тут на шмат кілометраў наўкол — збудаванні. Рабочы горад на пáлях. Тут нафтавікі здабываюць нафту. Іх вышкі, нафтазлівы, як велізарныя элеватары, нават двухпавярховыя жылыя дамы забудаваны на пáлях. Калі-б раптам мора высахла, то вышыня гэтых паляў зраўнялася-б з вышынёй пятнаццаціпавярховага дома...

Кожная вышка стаіць быццам на памосце. Іх злучае агульная эстакада — даўжэзны мост, па якім на розных хуткасцях імчацца «зісы», ваганеткі.

— Хутка тут спатрэбіцца рэгуліроўшчыкі руху, аўтаінспекцыя, — жартуе Канстанцін Пятровіч.

А ўнізе пеніцца мора, б'е хвалямі пáлі гэтых незвычайных збудаванняў. Часамі ў шторм яно імкнецца спаласнуць нават эстакаду. Тады «Казах» не можа перадаць харчы і пошту...

Рабочыя для такіх выпадкаў маюць «энзэ», яны жывуць і спакойна працуюць на Нафтавых каменнях. Праца — пазменная. Гэта мужныя людзі, сярод якіх шмат комсамольцаў. Азербайджанскія рабочыя-нафтавікі нясуць тут сваю вахту.

... Далёка адсюль Баку. І з Баку не відаць Нафтавых каменняў, але не толькі горад, уся краіна адчувае працоўны гераізм людзей, калі, прывозячы нафту на прыстань, параходы гукаюць за тых, хто ў моры.

## КІРАВАБАД — МІНГЕЧАУР

Дарогі гэтыя па расцвіўшай вясне, хоць пара яшчэ—палова прыгажосці, красавіка... Цвіце алыча ў садах Кіравабада. Густым белым цветам абсыпаны дрэўцы. А які цудоўны цвет персікаў! Ружовы, нават яркаружовы, як намаляваны, стаіць перад вамі сад...

Горад Кіравабад — другі па велічыні прамысловы цэнтр Азербайджана. Тут ёсць тэкстыльны камбінат, масла-тлушчавы камбінат, механічны і бавоўна-ачышчальны заводы. У прыгарадах Кіравабада размясціліся тры вінагардарскія соўгасы. Соўгас «Азербайджан» дае сталовы гатунак вінаграду, які ідзе толькі на выраб «шампанскага». У горадзе працуюць Пединститут, Сельскагаспадарчы інстытут, навукова-даследчыя інстытуты бавоўнаводства і жывёлагадоўлі, навукова-даследчыя станцыі вінагарадарства і шоўкаводства.

На тратуарах горада гоман моладзі, чуваць несціханы шум пеністай ракі Гянджанкі. А ўдалечыні бялеюць снегавыя вяршыні Малога Каўказа.

У Кіравабадзе вядзецца жыллёвае будаўніцтва, шырока разгарнулася добраўпарадкаванне горада. Рабочыя заканчваюць заліваць асфальтам новы калгасны рынак. Будуюцца новыя дамы, прыгажэйшым становіцца гарадскі парк з новым кінотэатрам.

На ўскраіне, куды імчацца нашы машыны, вецер на таполях разгушкаў птушак з гнёздамі. Зялёнай муравой пакрыліся плоскастрэхія саклі, помнікі старажытнасці. Горад мае багатую гісторыю. Калісьці ён называўся Гянджа. Адсюль і празванне яго муд-

Нафтавыя вышкі.





Будаўніцтва Мінгечаурскай гідраэлектрастанцыі. Мантаж турбін.

рага земляка — Нізамі Гянджэві. Маўзалей яму каля дарогі з Кіравабада на Мінгечаур. Хто праязджае, пакланяецца вялікаму пісьменніку-гуманісту...

Далей дарога бяжыць на Мінгечаур — малады горад, які пачаў расці з лёгкай рукі моладзі, прыехаўшай з усіх канцоў Савецкага Саюза на пабудову буйнейшай гідраэлектрастанцыі. Пачын камсамольцаў увянчаўся поспехам — там нарадзілася новае мора.

Вось удалечыні града белых, аснежаных гор Вялікага Каўказа. А ля падножжа як гуртом стоўпіліся брудныя, як авечкі, горы. У адным месцы яны разышліся. Гэта і ёсць тое месца, дзе Боз-Даг перасекла Кура з захаду на ўсход.

**І. ГРАМОВІЧ.**

### НАРАДЖЭННЕ МОРА

Гэта было ў першай дэкадзе красавіка. Паводцы на рацэ Куры каля Боз-Дага быў пакінуты адзін вузкі выхад з цясніны. Як ні бушавала рака, не хочучы пакарыцца людзям, але ні кроплі вады больш таго, што ёй было дазволена, яна не магла панесці ўніз да Каспія.

Напаўненне вадой Мінгечаурскага мора ўсхвалявала ўвесь калектыў будаўнікоў. Гэта-ж столькі месяцаў упартай працы, спрэчак з прычыны тэхнічных вырашэнняў было патрачана на тое, каб узняць у вышыню на некалькі дзесяткаў метраў плаціну, затапіць вадой велізарную тэрыторыю Самухскай нізіны.

Начальнік будаўніцтва І. Іслам-Задэ, галоўны інжынер Віталі Даманскі, прараб М. Мамедаў і многія з камандзіраў гідравузла некалькі дзён не адыходзілі ад плаціны. Перакрыццё донных труб было адказным момантам у жыцці будаўнікоў. Збяжыць вада паводкі — значыць, на год адтэрмінуюцца будаўнічыя работы. Гэта не ўкладвалася ў думках ні ў начальніка будаўніцтва, ні ў кожнага простага рабочага ГЭС.

— Затрымаем паводку, закілзаем нораў Куры! — такія размовы чуліся ўсюды.

Будаўнікі гідравузла ведалі, што няма на свеце больш звілістай ракі, як Кура. Амаль нідзе яна не цячэ роўна. На працягу аднаго кілометра яна некалькі разоў скіроўвае то крута направа, то налева, то, зрабіўшы нейкі незвычайны паварот, бяжыць назад. За свой неспакойны нораў і вельмі характар народ празваў яе «Кюр», што азначае капрызнае, плаксівае дзіця.

Кожную вясну Кура паводзіла сябе асабліва. Вада ў ёй цямнела, плынь рабілася бурапеннай. Яна залівала нізкія месцы — сёлы, палеткі, фермы. На яе мутнай паверхні плылі вымытыя з карэннем дрэвы, стрэхі і праслы плоту, парэнчы мастоў і шчэпкі лодак, усё цягнула за сабой да Каспія дужая неўгамонная горная рака.

Сёлета Кура паважна каціла свае воды ў Каспійскае мора, як быццам не было вясны, як быццам на хрыбтах Каўказа не раставалі снягі. Сівыя дзяды ківалі галовамі, гледзячы на сціплую Куру. Такога не здаралася ніколі вясною.

— Што з нашай рэчкай? — пыталі недаўменныя.

— Што?! Хіба не чуў? Каля гары Боз-Даг вырасла самая высокая ў Савецкім Саюзе плаціна. Яна абаперлася на крутыя скалы і затрымала ваду паводкі. Нараджаецца другое ў Азербайджане мора: першае Каспійскае, другое — Мінгечаурскае.

— А бавоўне тады хопіць вады?

— Вядома!.. Чалавек будзе кіраваць вадой. Адчыніць у плаціне трубу, і пойдзе вада на калгасныя палеткі. Мала будзе — яшчэ адну трубу адчыніць.

— Як у казцы!

— Не ў казцы, а — на яве. Едзь у Мінгечаур — усё на свае вочы ўбачыш.

І людзі прыязджалі... Будаўнікі бачылі каля плаціны бавоўнаводаў Шырвані і Мугані, вінаградараў Кіравабада і Ленкарані, садаводаў Кубы і шоўкаводаў Нухі.

На будаўніцтве ў гэтыя дні панавала незвычайнае ажыўленне. У кароткі тэрмін трэба было назаўсёды зачыніць бетоннымі пробкамі донныя адтуліны.

Усё вышэй і вышэй узнімалася вада. Яна затапляла дарогі, па якіх яшчэ ўчора снавалі аўтамашыны, самазвалы, бульдозеры, усё вышэй абмывала збудаваныя сцены, разлівалася, наступала на бераг.

Патрэбны былі хуткія рашучыя меры. Начальнік будаўніцтва Іслам-Задэ начаваў у будцы разам з рабочымі і інжынерамі. Ніколі не было такога напружання ў рабоце. Спаць даводзілася не больш трох гадзін у суткі.

У дыме, у зіхценні асляпляльных сполахаў зварачных апаратаў працавалі мантажнікі, якія апускаліся ў памяшканне, зробленае ў бетоннай тоўшчы, куды ішла толькі вузкая вертыкальная шахта. Вельмі важна было зрабіць мантаж складанага абсталявання да таго, як вада дасягне пэўнага ўзроўню. Дэталі абсталявання былі атрыманы, але часу заставалася няшмат.

Увішна працавалі брыгады Мікалая Гашманава і Мамеда Аліева. Але як ні напружвалі яны ўсе сілы, як ні стараліся працаваць хутчэй, пагражала адставанне. Цяжка было ўручную рабіць мантаж велізарных дэталей.

Іслам-Задэ склікаў вытворчую нараду. Пытанне ўзнікла адно — як дапамагчы брыгадам? Адны прапаноўвалі павялічыць колькасць людзей, другія — устанавіць транспарцёры. І вось па прапанове прараба Мамедава вырашылі разабраць аўтакран, апусціць яго па частках у памяшканне, дзе ішоў мантаж, сабраць там яго і працягваць работу. Так і зрабілі.

Дужая стальная рука аўтакрана спрытна падчэплівала і падавала дэталі. Мантажнікі ўпершыню за двое сутак з палёгкай уздыхнулі. Час быў выйграны. Яны ўзышлі на самае высокае месца плаціны, адкуль быў відаць разліў Мінгечаура. Вада залівала векавыя самухскія лясы. На яе паверхню ўсплывалі струхлелыя бярвенні, карчы. Трэба было ўсё затрымаць, не дапусціць да кратаў, праз якія шугала вада ў донныя трубы. Гэта магло забіць іх і выклікаць небяспечныя вынікі.

Па люстранай вадзе сюды-туды снавалі кацеры, вылоўліваючы і адганяючы ад уваходных вокан з кратамі ўсплыўшае смецце.

— Кацеры на новым моры, — сказаў Мамедаў. — Вялікае шчасце бачыць нараджэнне мора.

— Не толькі бачыць, — заўважыў парторг, — але быць удзельнікам яго нараджэння. Гэта яшчэ большае шчасце. У Азербайджане ад гэтага мора будзе арашона каля мільёна гектараў новых зямель.

Яны, як зачараваныя, глядзелі на горы за цяснінай Боз-Дага, да якой падыходзіла вада. Аднекуль з'явіліся белыя чайкі і стрыжы. Птушкі, відаць, таксама радаваліся новаму нечаканаму мору. Увесь гэты край у некалькі сутак пераўтварыўся, стаў непазнавальны.

— Гляджу я на гэты чароўны малюнак, — прамовіў Мамедаў, — і думаю: быццам мы адкрылі новую, невядомую яшчэ свету багатую краіну.

— Мы не адкрылі яе, а занава стварылі, — сказаў інжынер. — Стварылі для шчасця народа, для свайго пакалення. Няхай на карце Радзімы з'явіцца яшчэ адзін невялікі блакітны круг — новае Мінгечаурскае мора.

**К. ХРОМАЎ.**

**Мінгечаур.**

**Імран СЕІДАЎ**

# *Апшэрон*

Не ў яркіх казачных уборах
У гэты край ідзе вясна.
Зямля сухая тут, як порах,
Як меч, аголена яна.

Вятры тут вьюць злосна ў цішы,
Лютуе спёка тут з вясны.
Цвікі высокіх нафтавышак
Нібыта ўбіты ў шар зямны.

Пад скрыпы бэлек днём і ноччу
З зямных артэрыяў, з глыбінь
Качалкі прагна нафту смокчуць,
Не разгінаюць чорных спін.

Ля вышкі, колькі сілы хопіць,
Як рэгулятарам, ключом
Свяшчэннадзейнічае хлопец,
Націснуўшы усім плячом.

Заняты ён сваёй работай.
А ўся краіна з-за пляча
Глядзіць за кожным паваротам
Яго звычайнага ключа.

І хлопец гэтым задаволен.
Ён знае:
без яго клапот
Не плыў-бы карабель ніколі
і не лятаў-бы самалёт.

А без машын на свеце белым
Скарыць прастор ніхто-б не змог...
У металічныя іх целы
Душу ўдыхае ён, як бог.

Хоць Апшэрон не славяць горы
І паліць спёка, як агонь,
Ляжыць, працягнутая ў мора,
Яго рабочая далонь.

Ёсць шмат краін — суперніц рая,
Дзе пальмы высяцца ў цішы...
Але няма на свеце краю
З такім вось полымем душы!..

Плывуць над Апшэронам ночы,
Ды толькі мору не да сну.
І норд шпурляе пены клочча,
Рве злосна хвалю не адну.

Начная птушка пралятае.
Працяглі промні тоўшчу хваль.
Ашуга песня не сціхае,
Над бухтай праплывае ўдаль.

Апоўначы ў эфіры сонным
Здалёк чуваць курантаў бой.
І Кіраў па-над Апшэронам
Стаіць з узнятаю рукой.

Пераклад М. Аўрамчыка.

Новая вуліца ў Мінгечауры.



П. ГЕРАСІМОВІЧ

# ЯК ЧЫТАЦЬ КАРЦІНУ

У адным з лістоў да сваіх знаёмых юнак пісаў, што на другі-ж дзень пасля прыезду ў Ленінград ён знаёміўся са славутымі месцамі горада, быў і ў Рускім і ў Заалагічным музеях. У апошнім яго вельмі захапілі чучалы розных жывёл. Але Рускі музей, хоць і славіцца ён зборам твораў выдатных майстроў айчыннага мастацтва, не зрабіў на юнака ўражання.

У чым-жа тут справа? Хіба для таго, каб зразумець карціну, патрэбны асаблівыя вочы? Выходзіць, што так. Патрэбны і веды, і выхаванне, і высокаразвіты густ. І чым больш гэтыя якасці ўдасканаленыя — тым лепш.

Для глыбокага разумення карціны неабходна ўмець распазнаваць яе складаны арганізм, падобна таму як спрактыкаваны лётчык па гуку матора пазнае жыццё сваёй машыны.

Але якая патрэба выхоўваць у сабе здольнасць глядзець і разумець карціну? Хіба нельга ў жыцці абыйсціся і без гэтага? Той, каму даводзілася пранікнуцца глыбінёй мастацкага твора, добра ведае, якая вялікая выхаваўчая і пазнавальная сіла сапраўднага мастацтва.

Карціны В. Васнецова «Багатыры», «Пасля пабоішча Ігара Святаслававіча з палаўцамі», карціны В. Сурыкава «Баярыня Марозава», «Раніца стралецкай кары», «Меншыкаў у Бярозаве», «Пакарэнне Сібіры», творы І. Рэпіна «Не чакалі», «Запарожцы», В. Верашчагіна «Таржаствуюць», вялікая галерэя партрэтаў выдатных дзеячоў, творы савецкіх майстроў пакідаюць у нас не толькі эстэтычнае задавальненне, радуюць майстэрствам і фарбамі, але вядуць у глыб вякоў, знаёмяць з лепшымі старонкамі гісторыі народаў, іх гераічнага мінулага і сучаснага, іх барацьбой за свае светлыя мары.

У пейзажным жывапісе І. Шышкіна, І. Левітана, А. Саўрасава, сучасных пейзажыстаў паўстае перад намі веліч роднай прыроды, яе вечнае паэтычнае хараство. Усе гэтыя вялікія дасягненні чалавечага розуму і таленту створаны для народа, для чалавека, дзеля яго патрэб. Вось чаму неабходна свядомае ўспрыманне твораў мастацтва, іх глыбокае разуменне.

Першае, што заўсёды цікавіць гледача, — гэта змест карціны, тая думка, якую імкнуўся вобразна выявіць у творы мастак. Так, напрыклад, перад намі вядомая карціна украінскага мастака С. Грыгор'ева «Прыём у камсамол». Яшчэ здалёк на карціне бачым мы юнакоў і дзяўчат. Значыць, карціна напісана на тэму аб нашай моладзі. Але што тут адбываецца? Калі на карціну мы глядзелі здалёк, дэталей яе нельга было адрозніць, больш за ўсё на палатне вылучаўся сілуэт стройнай дзяўчынкі ў карычневай форменнай суконцы. Мастак намаляваў дзяўчынку асобна, удзяліў ёй асаблівую ўвагу. Пры больш уважлівым разглядзе мы бачыце школьніцу, яе строгія абрысы профілю і на ім адбітак усхваляванасці, якая бывае ў жыцці не заўсёды. Дзяўчынку прымаюць у камсамол!

Такім чынам, тэма нашай савецкай моладзі атрымлівае на карціне сваё вобразнае вырашэнне праз сюжэт, праз тое дзеянне, якое адбываецца на палатне. Асноўным героем гэтага дзеяння ў даным выпадку з'яўляецца школьніца, якую прымаюць у камсамол. З яе і пачынаецца развіццё сюжэта.

Далей мы бачым чырвоны стол і за ім членаў камітэта камсамола, старэйшых таварышаў героя. На іх тварах агульная радасць за новага камсамольца. Дзяўчынка разумее адносіны да сябе таварышаў і, адчуваецца па ўсім, апраўдае давер'е калектыва. Настрой усхваляванасці відаць і на тварах камсамольцаў, і на твары пажылога чалавека з правага боку. Вышэй за ўсіх — мякка акрэслены бюст І. В. Сталіна, таксама надзелены цёплай, бацькоўскай усмешкай. Прыўзнятасць агульнага настрою ўзмацняе чырвоны колер стала, край сцяга ў правым кутку, кашнэ на плячах камсамольца, чырвоная вокладка кнігі на каленях дзяўчыны злева.

Кожны колер у карціне разлічаны на тое, каб выклікаць бадзёры і ўрачысты настрой, радасць. Таму невыпадкова значнае месца ў карціне аддадзена чырвонаму колеру, срабрыстаму і жоўта-охрыстаму.

У цэнтры карціны на чырвоным стале стаіць букет вясновых кветак, адлюстроўваючы юнацтва, подых хараства вясны.

Чырвоны стол прыемна гарманіруе з колерам падлогі. Шараватыя адценні сцен пакоя дапаўняюць астатнюю каляровую гаму яе. На плошчы карціны ёсць цёмныя і светлыя месцы — кантрасты. Удалае іх чаргаванне надае карціне жыццёвасць. Сваёй жывапіснай мовай, узмацняючы або зніжаючы насычанасць каляровых плям, мастак паступова развівае апавяданне.

У жывапісным творы колер абумоўлены зместам і поўнасцю яму падпарадкаваны. Колер для мастака-жывапісца — усёроўна як голас для спевака.

Багацем жывапіснай мовы С. Грыгор'еў ставарае падабенства жыццёвай праўдзе. Кожная фігура на карціне і нават, здавалася-б, дробязь напісаны так, што ўспрыймаюцца як у натуры.

Няцяжка заўважыць, што ўсе фігуры людзей і асноўныя рэчы ўтвараюць сваім размяшчэннем круг, які пачынаецца ад пажылога чалавека, ідзе кнізу налева ад крэсла, затым да дзяўчыны, да групы камсамольцаў і завяршаецца светлым падаконнікам. У цэнтры круга — чырвоны стол і дзяўчынка. Такое размяшчэнне ўсіх частак карціны зніт оўвае ў адно непарыўнае цэлае ўсё дзеянне твора, надае развіццю сюжэта стройную паступовасць. Паспрабуйце з гэтага круга выкінуць што-небудзь, і на палатне атрымаецца пустое месца, якое парушыць увесь складаны арганізм твора, падобна да таго, як сапсаваўся-б увесь механізм гадзінніка, калі-б выкінуць адну, нават самую нязначную, яго дэталь. Такое планавае размяшчэнне на палатне ўсіх частак і арганізацыя іх у адно гарманічнае цэлае, накіраванае на выразнасць вобраза, на раскрыццё зместу, прынята называць кампазіцыяй. Здараецца, што ў маладога мастака карціна выходзіць нежывая, незразумелая. Цяжка здагадацца, што ў ёй галоўнае і што дадатнае. Гэта азначае, што карціна не скампанавана, што няма кампазіцыі, а значыць, няма і дзеяння, няма зместу.

Прыёмы кампазіцыі бываюць розныя. У адным выпадку яна пабудавана па кругу, у другім — па трохвугольніку, у трэцім — па дыяганалі і г. д. Але ў кожным выпадку — строга ў адпаведнасці з задумай, са зместам. Кожны мастак ставарае такі кампазіцыйны прыём, які дазваляе яму глыбей і больш вобразна данесці да гледача сваю думку.

Шмат увагі ў мастака займае апрацоўка паверхні палатна, яго знешняе хараство, культура тэхнікі выканання, што патрабуе вялікага майстэрства, свайго роду вынаходніцтва. На карціне іншы раз можна выразна бачыць месцы, пісаныя гладка, пісаныя наслоена, месцы з чаргаваннямі і таго і другога.

Апрацоўка мастаком паверхні палатна, матэрыяльны выгляд яго, называецца фактурай. Прызначэнне яе тое-ж, што і колеру, кампазіцыі — узбагачэнне выразнасці зместу.

Партрэт неабходна, таксама, як і карціну, глядзець, пачынаючы з тэмы.



М. Бажый. «Выдатніца».

Тэмай партрэта мастака М. Бажыя «Выдатніца» з'яўляецца жыццё савецкіх школьнікаў. Сюжэтам — барацьба савецкіх школьнікаў за авалоданне асновамі навук. Перад намі школьніца каля дошкі. На адкрытым і не па ўзросту строгім твары пранікнёны погляд, накіраваны на настаўніка, якога мы добра ўяўляем. Уяўляем мы і клас, і яе таварышаў па вучобе, іх гонар за выдатніцу. У вобразе школьніцы сабраны лепшыя рысы нашай моладзі, яе жыцця, яе светлых мар.

І ў партрэце колер мае вялікае значэнне. Самым моцным каляровым месцам вылучаецца твар выдатніцы на цёмным фоне дошкі. Падкрэслен позірк блакітных вачэй. Гэта — позірк сумленнасці і чысціні, у якім увасабляецца хараство чалавека новага складу, выхаванага ва ўмовах нашай цудоўнай рэчаіснасці.

На грудзях яе — камсамольскі значок, немалаважная дэталь характарыстыкі выдатніцы.

Цёмныя і светлыя часткі партрэта скампанаваны з разлікам поўнай іх гармоніі. Да паказанага на партрэце нельга што-небудзь дадаць альбо адняць. Вобраз выдатніцы-камсамолкі выразны таму, што мастаком глыбока прадуманы і тэма партрэта, і яго сюжэт, колер, кампазіцыя, таму што мастак знайшоў прыемную і сугучную вобразу фактуру.

Але асаблівай любоўю ў гледача карыстаецца пейзажны жывапіс. Пейзаж, — тая-ж карціна, дзе ёсць тэма, сюжэт, вобраз і яго жыццё.

У пейзажы вядомага савецкага мастака Г. Ніскага «Беларускі пейзаж» мы бачым характэрны матыў беларускай прыроды. Звілістае палатно чыгункі праходзіць скрод раўнінных палёў, пакрытых золатам надыходзячай восені. Мы ўяўляем і лагодны дзень са срабрыстым небам і жураўлінымі адгалоскамі, і аблічча роднай зямлі, напоўненае захапляючым хараст. вом, паэзіяй, сілай.

Г. Ніскі правёў свае юнацкія гады на Гомельшчыне. Сын чыгуначнага ўрача, з маленства любіў ён родную прыроду, яе палі і лясы, чыгуначныя шляхі. І свае думкі, свае шчырыя пачуцці мастак увасобіў у карцінах-пейзажах, наблізіў іх да гледача, што любіць жывапіс і ўмее знаходзіць у ім адлюстраванне сваіх настрояў, сваіх імкненняў да барацьбы за шчаслівую і мірную будучыню.



Г. Ніскі. «Беларускі пейзаж».

А. ЛУКАВЕЦ

# БУДОЎЛЯ НАД ВІСЛАЙ

Каля Віслы, непадалёку ад Кракава, стаяла, прыціснуўшыся да зямлі сваімі нізкімі пабудовамі, старая вёсачка з сумнай назвай Магіла. Стаяла да той пары, пакуль яе не чапалі, пакуль пачарнелыя ад часу хацінкі былі адзіным багаццем мясцовых сялян. Але вось падзьмуў свежы струмень аднаўлення, і вёсачка рассыпалася, нібы трухлявы пень пад ударам сякеры. Аднак ніхто з жыхароў не пашкадаваў аб гэтым. Ведалі, соцыялістычны горад Новая Гута патрабуе размаху будаўнічых работ.

Як падземная крыніца, пераадольваючы ўсе перашкоды, магутным струменем вырываецца на прастор, так на месцы аджыўшай свой век вёскі Магіла раскінулася вядомая на ўвесь свет будоўля. Яе не акінуць вокам. Дзесятак другіх вёсак, накшталт Магілы, размясціліся-б на яе тэрыторыі. Стагоддзі далі Кракаву не адну сотню багатых пабудоў, але нічога, нават у малой ступені, не параўнаеш з камбінатам. Старадаўні горад ніколі не бачыў гэткага збудавання.

Жыццё на будоўлі кіпучае. Ужо не раз былі моманты, якія надоўга засталіся ў памяці людзей, назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю як вялікія падзеі.

Вось абляцела будоўлю яшчэ адна вестка: у дзень 30-годдзя з дня смерці Ільіча польскі ўрад вырашыў назваць Новую Гуту камбінатам імя В. І. Леніна. Трэба было бачыць будаўніцтва ў тыя першыя гадзіны, калі тэлефон толькі што прынёс з Варшавы радаснае паведамленне! Яно ўскалыхнула ўвесь калектыў, і народ сказаў:

— Вялікі гонар насіць гэтае імя. Мы апраўдаем яго сваёй працай, сваімі справамі!

... Імклівa нясе Вісла свае воды да прастораў Балтыкі. На яе берагах расце металургічны камбінат. Не праходзіць дня, каб усё выразней не паўставалі контуры будучага гіганта. Там, дзе ўчора працавалі землякопы і бетоншчыкі, сёння шмат спраў для мантажнікаў і верхалазаў, а заўтра сюды ўжо збіраюцца прыйсці эксплуатацыйнікі. Нездарма самі будаўнікі гавораць:

— Камбінат узнімаецца ўгору хутчэй, чым бяжыць уніз па плыні Вісла.

З вежавага крана, што навіс над першай домнай, уся будоўля відна, як на далоні. Вунь там, удалечыні, ля галоўнага ўваходу — комплекс рамонтна-механічных майстэрняў. Велізарныя карпусы сціпла называюць майстэрнямі, але кожная з іх — гэта амаль сапраўдны самастойны завод. Тут для патрэб будоўлі рыхтуюцца неабходныя вузлы, канструкцыі, дэталі, адсюль пайшлі на аб'екты першыя сталёвыя балванкі, якія выплаўлены ў совецкіх электрапечах.

— Ніяк не магу забыцца, як мы закончылі мантаж электрапечы і ўпершыню пачалі плавіць сталь, — расказвае, пазіраючы на шчыт аўтаматычнага кіравання, малады механік Бернард Марчак. Белае полымя адлюстроўваецца ў яго вачах. — Якраз на гэтых печах мне давялося праводзіць свае першыя ў жыцці плаўкі. Працаваць на іх — адно задавальненне: дзейнічаюць яны, як самыя дакладныя механізмы.

Маштабы рамонтна-механічных майстэрняў велізарныя, але ўсё-ж гэта прадпрыемствы падсобнага характару. Галоўнае-ж на будоўлі — домны, мартэны, коксахімічныя батарэі, блюмінг, пракатны цэх, цеплаэлектрацэнтраль.

— Перад вайной у нас было 23 металургічныя заводы, — расказвае начальнік будаўніцтва камбіната Міхал Раёўскі. — Яны давалі на працягу года да паўтара мільёна тон сталі. А камбінат імя Леніна адзін будзе даваць прадукцыі непараўнальна больш.

З таго-ж вежавага крана рэльефна паўстаюць перад вачыма галоўныя аб'екты. Як асілак, высока ўгару паднялася сваімі збудаваннямі першая домна. Спачатку тут цяжка зразумець, што да чаго. Але будаўнікі ахвотна растлумачваюць прызначэнне кожнай канструкцыі, кожнага механізма. Побач з шахтнай печчу ўзняліся паветранагравальныя апараты або каўперы, без якіх вытворчасць чыгуну немагчыма, паветрадуўныя машыны пад'ёмнікі, эстакада.

— Такіх доменных печаў у нас будзе чатыры, — гаворыць галоўны інжынер другога будаўнічага ўпраўлення Тадэуш Кура. — Каля першай, бачыце, другая домна. Яна дасць чыгун неўзабаве. А далей мы паставім яшчэ дзве. Усе домны будуць аўтаматызаваны. Совецкія сябры прысылаюць для іх самае сучаснае абсталяванне. Такіх печаў наша металургія яшчэ не ведала.

Непадалёк ад доменных печаў будуецца коксахімічны завод. З начальнікам чацвёртага ўпраўлення завода Антоніем Рагуцкім мы пазнаёміліся яшчэ ў час, калі пад галоўныя аб'екты толькі рыхтаваліся фундаменты. Гэта энергічны чалавек, вопытны кіраўнік.

Па сваіх маштабах кожны галоўны аб'ект камбіната — гэта цэлы будаўнічы раён. Коксахімічны завод — складаны комплекс збудаванняў. Антоні Рагуцкі разгарнуў на стале белы аркуш ватмана, на якім, нібы лабірынт, намалявана схема будучага завода. Калі схему расшыфраваць, атрымаецца 170 самастойных аб'ектаў. Антоні Рагуцкі ўпершыню кіруе такім вялікім будаўніцтвам. Ён памятае тэрміны пуску кожнага аб'екта, ведае найдрабнейшыя дэталі, называе прозвішчы многіх перадавікоў працы.

— Памятаеце, год назад тырчэлі тут наўкол, як шчаціннe, сталёвыя пруты, а над імі падымаліся ў клубах пары драўляныя рыштаванні? Але, нягледзячы на мароз, закладка фундамента не спынялася ні на гадзіну. Цяпер гэта далёка за плячыма. Ужо гатова першая батарэя, заканчваецца другая, трэцяя. Падняліся складаныя млыны, вугальныя вежы, перагрузачныя станцыі. Поўным ходам ідзе мантаж абсталявання.

Антоні Рагуцкі гаварыў не спыняючыся, і ў яго словах гучала гордасць за поспехі свайго калектыва.

— Перад будаўнікамі коксахімічнага завода, — працягваў ён, — паўстала неадкладная канкрэтная задача: падрыхтаваць да пуску першую батарэю. Тэрміны сціслыя, але людзі нашы ўжо навучыліся працаваць, палюбілі сваю справу, параднілiся з будоўляй. Гэта дае нам упэўненасць, што заданне будзе выканана.

У самым цэнтры будоўлі раскінуліся карпусы цеплаэлектрацэнтралі. Будаўнікі не без падстаў называюць яе «сэрцам камбіната». Адсюль ва ўсе куткі гіганта пойдзе энергія, яна будзе круціць машыны, плавіць сталь, ганяць пракат; без яе не пусціш блюмінга, не атрымаеш коксу, яна будзе даваць святло і цяпло. Трэба заўважыць, што цеплаэлектрацэнтралі ў Польшчы раней не будаваліся. Цяпер будуюцца дзве — адна ў Варшаве, другая — тут.

Не прайшло і года, як на цеплаэлектрацэнтралі пачаўся мантаж першага турбаагрэгата. І вось ужо гатовы першы турбагенератар, гатовы да пуску першы кацёл, на чарзе — другі.

Зроблены турбапаветрадуўка, насосная станцыя і іншыя збудаванні. Усё бліжэй і бліжэй дзень, калі першая чарга новай станцыі ўступіць у строй.

Як гэта ні цяжка бывае на вялікай будоўлі, але тут усё-ж фіксіруецца кожны крок. Гісторыя будоўлі гаворыць, што калі ў першыя месяцы рабілі толькі падсобныя прадпрыемствы, праводзілі планіроўку і збіралі сілы, дык на другім этапе тэмпы з дня на дзень узрасталі. У зводках за 1952 год можна знайсці даволі ўнушальныя шасцізначныя і сямізначныя лічбы. Адной зямлі перавернута за год два з паловай мільёны кубаметраў. А для перавозкі сталі, жалеза, бетону, цэглы і іншых матэрыялаў, што былі ўкладзены ў будоўлю за год, спатрэбілася да ста тысяч люблінскіх грузавых аўтамабіляў.

— Мінулы, чацвёрты год шасцігадовага плана з'явіўся для нас годам рашучага наступлення па ўсяму фронту, — гаворыць Міхал Раёўскі. — Мы зрабілі за гэты год у два з паловай раза больш, чым за папярэдні.



**Панарама будаўніцтва камбіната. На першым плане збудаванне домны № 1.**

Але бягучы год будзе яшчэ больш напружаны. Адбываецца перастаноўка сіл. Земляныя, бетонныя і іншыя работы адступаюць на задні план. Першаступеннае значэнне набывае мантаж. Машын і сталёвых канструкцый будзе змантыравана ўдвая больш мінулагодняга.

Цяперашні, пяты год шасцігодкі, будаўнікі назвалі рашаючым этапам першай чаргі будоўлі. І гэта сапраўды так. Два турбаагрэгаты на цеплаэлектрацэнтралі, дзве домны, дзве коксахімічныя батарэі, магутны блюмінг — вось аб'екты, якія ў бягучым годзе павінны ўступіць у строй. Будаўнікі разумеюць, што пуску першай чаргі чакае ўся краіна. Яны імкнуцца ўрадавыя заданні выканаць у тэрмін.

... «Польская навіна» — так у народзе гавораць пра камбінат. Больш трапнае вызначэнне цяжка падабраць. Камбінат уваходзіць у жыццё краіны як перамога таго новага, што прынёс з сабою народны лад. Сваім размахам, сваімі тэмпамі ён ломіць папярэднія будаўнічыя каноны, абуджае творчую думку, патрабуе навейшай тэхнікі, прымушае шукаць самыя свежыя рашэнні навейшых праблем. Пад'ёмныя краны, экскаватары, бульдозеры, сучасныя станкі зрабіліся на будоўлі звычайнай справай, атрымалі шырокі прастор. Працоўныя будні даюць сотні і тысячы прыкладаў смелага наватарства, без якога нельга зрабіць і кроку.

Калі праходзіш па карпусах цеплаэлектрацэнтралі і бачыш велізарныя машыны, што ўзняліся на жалезабетонных асновах, людзі каля іх здаюцца маленькімі і непрыкметнымі. Але калі зазірнеш у гісторыю будоўлі, дык на ўвесь рост паўстае і ўздымаецца над волатамі-агрэгатамі гераічная праца будаўнікоў, праца, поўная клопатаў і перажыванняў. Працоўныя будні камбіната маюць шмат прыкладаў рабочай ініцыятывы, смелага наватарства, сапраўднага гераізму. Вось адзін з іх.

Задача была простая і ясная: цеплаэлектрацэнтраль трэба пусціць раней за другія аб'екты, — яна патрэбна не толькі камбінату, але і самой будоўлі. Тэрмін пуску першай чаргі ўстанавіў урад. Гэты тэрмін не ўкладваўся, здавалася-б, ні ў якія нормы. Нават бывалыя будаўнікі сумняваліся — ці атрымаецца? Але людзі апярэдзілі час. Якраз у тыя дні, калі пачынаўся мантаж, на камбінат прыбылі Эмануіл Смеля і Францішак Сыска. Яны прыехалі з будаўніцтва электрастанцыі Явожна-ІІ, мелі ўжо спрыт і вопыт, запазычаны ў савецкіх спецыялістаў.

— Трэба ўжыць блокавую сістэму мантажу машын, — рашуча заявілі яны. — На Явожна атрымалася добра, павінна атрымацца і ў нас.

Прапанова знайшла падтрымку. На дапамогу прыйшлі савецкія кансультанты. Горача ўзяўся дапамагаць наватарам і начальнік упраўлення энергамантажу Яхімчык Збігнеў, кавалер Залатога Крыжа Заслугі. І блокавая сістэма яшчэ раз апраўдала сябе, як і на Явожна-ІІ. Мантажнікі думаюць цяпер не аб тым, каб укласціся ў тэрмін, а аб скарачэнні перадпускавога перыяду па ўсіх агрэгатах. Яны спаборнічаюць у гэтым з будаўнікамі Варшаўскай цеплаэлектрацэнтралі.

Наватарская думка выратавала ў цяжкую хвіліну і калектыў другога будаўнічага ўпраўлення. Збудаванне доменнага завода толькі разгортвалася, калі пачалі думаць пра спосабы бетаніравання фундамента. Калі падвозіць матэрыял машынамі — абыйдзецца дорага і зойме шмат часу. Раней на будоўлях так і рабілі, але на камбінаце вырашылі ісці іншым шляхам — больш танным.

На базе будаўніцтва былі дзве магутныя савецкія бетонапомпы. Іх пакуль што ніхто не кранаў. На будоўлі ўспаміналі нейкі выпадак, што меў месца пры збудаванні цагельнага завода ў адным з польскіх гарадоў. Там паспрабавалі ўжыць замежную бетонамяшалку. Механізм адмовіўся працаваць, было змарнавана шмат часу, парушаны графікі. Аднак галоўны інжынер другога ўпраўлення Тадэуш Кура вырашыў усё-ж такі паспрабаваць савецкія бетонапомпы.

— Яны-ж у Савецкім Саюзе працуюць, і працуюць цудоўна, — сказаў ён тады. — Чаму-ж не ўжыць і нам?!

Тых, хто сумняваўся, гэтыя словы не пераканалі, але наватары ўхапіліся за бетонапомпы, як за выратавальны сродак. Спачатку справа не атрымлівалася — не ведалі як карыстацца новым, незнаёмым абсталяваннем. На фундаменце першай печы згубілі дарэмна некалькі дзён. Але сіла волі перамагла і тут. Спецыялісты асвоіліся з бетонапомпамі, тыя пачалі працаваць нармальна, і ўжо пад другую печ фундамент быў укладзены ўдвая хутчэй, чым пад першую. Будаўнічы графік аказаўся апярэджаны.

Наватарства зрабілася неад'емнай рысай будаўнікоў камбіната. Можна расказаць пра маладога электразваршчыка Яна Аўчапчыка, які зрабіў на першым катле цеплаэлектрацэнтралі 800 зварак і толькі 2 з іх патрабавалі папраўкі. Можна пазнаёміцца са Станіславам Сарныкам, сынам чыгуначніка, які стаў ініцыятарам барацьбы за тэхнічны прагрэс. Жыццё на будоўлі кожны дзень нараджае ўсё новыя і новыя прыклады працоўнага гераізму і натхнення!

У барацьбе са старым новае, передавое атрымлівае перамогу на ўсіх участках. Камбінат паўстае ўпэўнена, насуперак варожым чуткам і плёткам. У першыя дні, калі толькі распрацоўваліся праекты, некаторыя спецыялісты старой школы не верылі ў рэальнасць будоўлі. Не верылі, таму што не ведалі сіл і здольнасцей свайго народа. З недавер'ем пазіралі на «няпрошаных гасцей» і мясцовыя сяляне. Але той перыяд прайшоў, класавы вораг страціў глебу пад нагамі. Цвёрды-ж поступ новага не ведае перашкод!

— Цяпер недавер'е змянілася любоўю, — заўважае Міхал Раеўскі. — Само жыццё прымусіла прызнаць праўду. Заданне ў нас штодня павялічваецца. За два гады яно вырасла ў чатыры разы. Але мы спакойныя за яго лёс. Людзі да нас ідуць ахвотна, не бягуць, як раней, ад цяжкасцей, а энергічна іх пераадольваюць. Наша сіла ў самім народзе.

У гэтых словах гучыць гарачая вера ў калектыў. Яна грунтуецца на рэальных даных — на новых адносінах людзей да працы.

На працягу дня людзей нібыта і не відаць. Але вось заканчваецца змена, і да выхаду накіроўваецца суцэльны людскі паток. Будаўнічая пляцоўка гудзе на тысячы галасоў, як растрывожаны вулей. І не дзіўна: на будаўніцтве камбіната і ў цэхах занята звыш трыццаці тысяч чалавек!

Хто яны, гэтыя людзі? Тут ёсць і вопытныя інжынеры, якія бачылі на сваім вяку не адну будоўлю, і зусім маладыя спецыялісты, толькі два-тры гады назад скончыўшыя інстытуты. Тут ёсць і праслаўленыя майстры сваёй справы, і навічкі ў будаўніцтве, што прыехалі сюды з вёсак. Такіх, дарэчы сказаць, большасць. Але як тыя, так і другія праходзяць на будоўлі своеасаблівую школу — школу майстэрства, школу буйнага будаўніцтва.

Ціхім вясковым хлопцам пераступіў парог будоўлі Раман Кацэроўскі, сын селяніна з беднай вёскі Жэшуўскага павета. Тут пачаўся яго працоўны шлях будаўніка, і тут ён вырас ад радавога рабочага да дзяржаўнага дзеяча. Але аб сабе ён гаворыць сціпла:

— На будоўлі шмат такіх, як я. Разам прыйшлі, разам вучыліся, разам працуем.

— Раскажыце аб сваім мінулым жыцці, — папрасілі яго.

— Што-ж тут расказваць? Мала добрага бачыў. Жыў па прымаўцы: «Бяда як ліха».

У сям'і было дванаццаць дзяцей, а ў гаспадарцы меўся толькі невялічкі кавалак зямлі. І ніколі-б, відаць, не выбіліся бацькі з даўгоў, калі-б не перамога новага ладу. Жыццё адразу пайшло ў іншым кірунку. Раман, старэйшы з сыноў, скончыў сямігодку і паехаў на будаўніцтва камбіната.

— Што ўмееце рабіць? — спыталі тады ў яго.

Што мог адказаць вясковы хлапчук? Такіх у тыя дні прыходзіла большасць. Усім ім дапамаглі на будоўлі знайсці сваё месца, вызначыць свой лёс. Раман Кацэроўскі пачаў з чорнарабочага на пракладцы пад'язных чыгуначных шляхоў. Працаваў ён добра, зрабіўся перадавіком працы і праз год ужо атрымаў высокую ўрадавую ўзнагароду — Срэбраны Крыж Заслугі.

Калі на будоўлі арганізавалі курсы майстроў, Раман Кацэроўскі быў у ліку першых слухачоў. І вось ён ужо майстар. Разам з працай прыйшлі гонар і слава. Яго імя зрабілася вядомым усім будаўнікам. І калі трэба было вылучыць кандыдата ў дэпутаты сейма, калектыў, не задумваючыся, назваў імя свайго выхаванца Рамана Кацэроўскага.

— Наш камбінат — сімвал міру і мірнага працвітання краіны, — гаворыць Раман Кацэроўскі, адзін з самых маладых дэпутатаў сейма. — Гэтыя словы буйнымі літарамі напісаны ля ўваходу на будаўнічую пляцоўку. Так, мы будуем камбінат для мірных мэт, для шчасця народа. Сталь нашага камбіната пойдзе на мірныя патрэбы. І мы не пашкадуем сіл і працы, каб мір адстаяць.

Металургічны камбінат імя В. І. Леніна — сапраўды ўсенародная будоўля. Як магніт прыцягвае яна да сябе ўвагу ўсёй краіны. Аб ёй ведае кожны школьнік. Больш ста прадпрыемстваў пасылаюць для яе сваю прадукцыю: машыны, станкі, сталёвыя канструкцыі. Камбінат будуе ўся краіна, і ўся краіна ганарыцца поспехамі будаўнікоў. А поспехі гэтыя не малыя і яны памнажаюцца з дня на дзень.

У Польшчы і стары і малы ведае, што буйнейшы ў краіне камбінат будуецца пры бескарыслівай дапамозе Савецкага Саюза. З розных гарадоў Савецкай краіны польскія будаўнікі атрымліваюць праекты, дзе ўлічаны ўсе дасягненні перадавой тэхнікі, а таксама абсталяванне, якога яшчэ не ведалі польскія металургі.

— Наша будоўля — гэта жывое сведчанне дружбы і дапамогі Савецкага Саюза, сімвал клопатаў, якія праяўляюць савецкія людзі аб сваіх сябрах, — гаворыць нам Раман Кацэроўскі.

Камбінат расце як жывое сведчанне дружбы і братэрства двух суседніх народаў, дружбы, змацаванай крывёю і непарушнай навек.



Маладыя будаўнікі вядуць мантаж абсталявання, якое прывезена на камбінат з Савецкага Саюза.

# Гордасць рускага мастацтва

Да 150-годдзя з дня нараджэння.

«З'явіўся вялікі чалавек, які, увасабляючы спалучэнне, нібы экстракт, сіл народных, узняўся і пайшоў ствараць цуды — тое, што яму было перададзена духам народным», — пісаў аб геніяльным заснавальніку рускай класічнай музыкі М. І. Глінку выдатны мастацтвазнаўца Стасаў. І сапраўды, тое, што стварыў за сваё жыццё Глінка ў гісторыі рускай музычнай культуры, — непараўнальны цуд!

З нябачанай да яго глыбінёй і сілай Глінка выказаў у сваёй творчасці імкненні і спадзяванні народа, паказаў яго веліч і высакародства. Ён, падобна Пушкіну, генію рускай паэзіі, неўміручаму класіку сусветнай літаратуры, у рускай музыцы стварыў народнае, нацыянальна-самабытнае мастацтва, узняў яго да ўзроўню сусветнай музычнай культуры.

Эпіграфам да ўсіх твораў Глінкі могуць быць яго словы аб тым, што «музыку стварае народ, мы, кампазітары, толькі аранжыруем яе». І гэта таму, што Глінка глыбока вучыўся ў народа, на ўсё жыццё парадніўся з народнай песняй, казкай, звычаямі і з жыццём народа.

Музыка Глінкі натхнёна перадавымі вобразамі таго часу, бо яе стваральнік быў не толькі геніем, але і сучаснікам лепшых людзей Расіі, такіх, як Кюхельбекер, Пушкін, Грыбаедаў, Жукоўскі, Гогаль і іншыя. Гэта яны выхоўвалі ў кампазітара імкненне да «дабра, прыгажосці і справядлівасці», узмацнялі ў ім пачуцце нацыянальнай гордасці, творча развівалі нацыянальнага кампазітара-рэаліста, дапамагалі ў стварэнні непараўнальных узораў нацыянальнай музыкі.

П. І. Чайкоўскі пісаў пра Глінку, што гэта казачны асілак, які няўхільна ішоў наперад, пераадольваючы ўсе перашкоды сваёй багатай таленавітай натурай. І калі ацаніць па-сапраўднаму сілу творчага натхнення Глінкі, грандыёзнасць яго ідэйных замыслаў, дасканаласць і выключную шматбаковасць іх увасаблення ў творчасці, дык сапраўды ва ўсёй сусветнай музыцы знойдзецца толькі некалькі імён, якія можна паставіць поплеч з ім — геніем, гордасцю рускага мастацтва, рускага народа.

Уплыў творчасці Глінкі на развіццё сусветнай музыкі добра разумелі не толькі дзеячы рускай музычнай культуры. Аб гэтым неаднаразова выказваліся прадстаўнікі музычных культур Францыі, Германіі, Італіі, Іспаніі і другіх краін свету.

М. І. Глінка пражыў усяго 53 гады. На працягу сваёй творчай дзейнасці ён напісаў геніяльную «айчынную героіка-трагічную оперу» «Іван Сусанін», грандыёзную народна-эпічную оперу «Руслан і Людміла», музыку да трагедыі Кукальніка «Князь Холмскі», сімфанічныя творы «Камарынская», «Вальс-фантазія», «Ноч у Мадрыдзе», «Арагонская хота», цудоўныя рамансы на тэксты Пушкіна і другіх паэтаў, у тым ліку такі шэдэўр, як пушкінскі раманс «Я помню чудное мгновенье», вялікую колькасць твораў другіх жанраў. І кожны з гэтых твораў — геніяльная старонка ў скарбніцы рускай і сусветнай класікі, для многіх пакаленняў кампазітараў узор таго, як трэба ў гуках раскрываць душу свайго народа, служыць яму сваім талентам.



М. І. Глінка.

150-годдзе з дня нараджэння М. І. Глінкі адзначана 1 чэрвеня бягучага года. Гэта вялікае свята для нашага савецкага мастацтва — самага перадавога мастацтва ў свеце, якое, развіваючы ў музыцы вялікія традыцыі, пакінутыя нам у спадчыну М. І. Глінкам, змагаецца за стварэнне савецкай музычнай класікі.

І. НІСНЕВІЧ.

А. С. Пушкін і В. А. Жукоўскі ў М. І. Глінкі.



# НОВЫЯ КНІГІ

## „Карэйскія казкі"

Па ўспамінах В. Бонч-Бруевіча, В. І. Ленін высока цаніў народную творчасць. Ён гаварыў, што яна дапамагае разуменню народнай псіхалогіі.

Гэтыя словы самі прыходзяць на ўспамін, калі чытаеш «Карэйскія казкі», выдадзеныя Дзяржаўным выдавецтвам БССР у гэтым годзе. У зборніку змешчана каля 20 казак. Чытаючы іх, мы бачым перад сабой непакорны карэйскі народ, яго праўдзівую, свабодалюбівую душу, незгасальную веру ў светлае будучае.

Вось смелы і дужы юнак Хон Кіль Тон — сын нявольніцы. Усё сваё жыццё прысвячае ён барацьбе супраць сваволніцтва багацеяў. З жывой непасрэднасцю малюе казка вобраз гэтага нястомнага барацьбіта. Калі Хон Кіль Тону мінуў адзін год, мудрэц Хен Бу прадказвае яму ясны розум і вялікую будучыню. У сем год хлопчык ужо здзіўляе ўсіх сваёй сілаю волата, умее чытаць рукапісы кітайскіх мудрацоў. Ён можа ўціхамірваць разлланага тыгра, разгадваць думкі ворага. Калі Хон Кіль Тон вырастае, ён пакідае родны дом і накіроўваецца ў горы, да сваіх будучых паплечнікаў па барацьбе. Але перад тым, як пакінуць родныя мясціны, ён узыходзіць на вяршыню высокай гары. Адсюль аглядае ён сваю радзіму, яе сінія азёры, лясы, рэкі, палі, і ў цела яго ўліваецца незвычайная сіла. Ён адчувае, што з кожнай хвілінай становіцца ўсё дужэйшым. У любві да радзімы ён чэрпае сваю моц.

Няўлоўна дзейнічае Хон Кіль Тон. Ён спрытна расправўляецца з ліхімі бонзамі-манахамі, якія грабілі беднякоў і прымушалі іх працаваць на сябе і каралеўскіх чыноўнікаў. Па заслугах атрымлівае ад яго крывапіўца народа — злы і бесчалавечны губернатар.

Апяваннем свабодалюбства, мудрасці сапраўдных сыноў Карэі прасякнута казка «Як селянін Чэчжу выратаваў». У ёй расказваецца аб спрадвечнай барацьбе народных мас з японскімі грабежнікамі. Просты селянін з невялікай колькасцю воінаў вызваляе карэйскі горад Чэчжу ад японскай навалы, што не маглі зрабіць самыя лепшыя каралеўскія генералы.

Чытач знойдзе ў зборніку і тыя цікавыя казкі, дзе народ востра кляйміць хцівасць, эгаізм багацеяў, іхнюю прагнасць да лёгкай нажывы (казкі «Узнагарода птушынага цара», «Залатыя бобінкі»).

Убачыўшы, што дзівосны алень прыносіць да ўдавы бобінкі, да якіх варта было толькі дакрануцца рукой, каб тыя раптам зрабіліся залатымі, багацей аж памірае ад зайздрасці. Ён выбірае час, калі ўдава з сынам былі ў полі, і выкрадвае гэтыя бобінкі. Але дзіва! У яго руках яны зноў становяцца звычайнымі. На гэта алень яму гаворыць:

«—... Ад дакранання рук, якія ўмеюць працаваць, простыя рэчы робяцца залатымі. Рукі-ж, якія не ведаюць працы, ператвараюць золата ў попел» (казка «Залатыя бобінкі»).

Пісьменнік А. Якімовіч зрабіў карысную справу, пераклаўшы на беларускую мову з рускай карэйскія казкі. Як папрок перакладчыку, хочацца толькі сказаць, што ў тэксце можна знайсці рускія словы, як «жмыхі» замест «макуха», «шышка» ў значэнні «гуз» і інш. Дзеяслоў «дзякаваць» у беларускай мове патрабуе пасля сябе назоўніка, які стаіць у давальным склоне, а не ў родным, як гэта ў рускай мове. А перакладчык чамусьці піша: "Яна не ведала, як ёй **дзякаваць** яго» (стар. 57).

Ёсць недахопы і ў мастацкім афармленні кнігі. Малюнкі мастака І. Давідовіча не заўсёды адпавядаюць тэксту. Так у казцы «Залатыя бобінкі» гаворыцца пра 12-гадовага хлопчыка, а на малюнку паказаны хлопчык гадоў шасці-сямі. У зносцы на 46 старонцы чытаем: «У Карэі вокны і дзверы ў пакоях не адчыняюцца, а рассоўваюцца ў бакі», а на гэтым малюнку бачым якраз расчыненыя дзверы.

Сустракаюцца і іншыя недахопы. Але яны не могуць засланіць усю тую важнасць выдання карэйскіх казак на беларускай мове. Юны чытач цёпла сустрэне гэтую кнігу.

Ан. КЛЫШКО.

# ДЗІЎНЫЯ РАСЛІНЫ

Кактус, безумоўна, адна з самых дзіўных раслін зямнога шара. Хто не ведае гэтых вычварных зялёных вырадкаў то падобных на вожыка, то на свячу, то на шар, то з пляскімі сцябламі, якія нагадваюць доўгія лісты? Зараз амаль не знойдзеш аматара кветак, у якога на акне не стаяў-бы кактус.

Расліны гэтыя прышлі да нас з-за акіяна, дзе яны распаўсюджаны галоўным чынам у засушлівых раёнах Мексікі, Бразіліі, Аргентыны. Растуць кактусы і ў вільготна-гарачых раёнах цэнтральнай і паўднёвай Амерыкі. Гэта пераважна маласочныя кактусы, яны не маюць ярка выяўленых калючак. У сябе на радзіме некаторыя кактусы дасягаюць вялізных памераў — да 20 метраў вышыні. І ў той-жа час сустракаюцца кактусы памерам з лясны арэх. Да сямейства кактусаў адносіцца каля 1.500 відаў.

Гэтае сямейства раслін — яркі прыклад прыстасавальнасці арганізмаў да ўмоў асяроддзя. Наўрад ці якая-небудзь іншая група раслін так змяняе знешнія формы і органы пад уздзеяннем тых або іншых знешніх умоў. Там, дзе расце пераважная большасць кактусаў, — клімат гарачы, ападкаў вельмі мала і выпадаюць яны няроўнамерна. Нярэдка на працягу некалькіх месяцаў пры страшэннай спякоце не выпадае ніводнай кроплі дажджу. У такіх умовах звычайныя лісцяныя расліны гінуць. Але гэтыя-ж умовы садзейнічалі ўзнікненню такіх раслін, якія збіраюць і захоўваюць на працягу доўгага перыяду вялікую колькасць вады.

Тоўстае, мясістае сцябло, пакрытае часта васковым налётам, выконвае ролю водасховішча. Паверхня выпарэння ў кактусаў невялікая, таму што ў іх няма лісця. Вялікая колькасць калючак, рэбры і сасочкі засцерагаюць расліну ад вельмі моцнага дзеяння сонечных праменняў.

Кактусы — расліны, якія цвітуць. У большасці з іх прыгожыя кветкі рознай афарбоўкі. Часта цвітуць яны і на падаконніках у нашых умовах.

Аднак, нягледзячы на прастату ў доглядзе, калі-ні-калі кактусы, асабліва ў пачынаючых аматараў, загінаюць або не даюць кветак. Справа ў тым, што гэтым раслінам, як гэта ні дзіўна, шкодзіць празмерная ўвага і догляд. Як і большасць раслін, кактусы растуць няроўнамерна на працягу года. У іх ёсць перыяд спакою, які выпадае ў нашых умовах на зіму. Зімой кактусы трэба трымаць у халодным светлым месцы пры тэмпературы не больш 10 — 14 градусаў цяпла. Паліваць іх трэба не часцей, чым раз у дзесяць дзён. Некаторыя кактусы вытрымліваюць нават тэмпературу 3 — 5 градусаў цяпла, але тады іх не трэба паліваць зусім.

Вясной кактусы трэба пастулова прывучаць да адкрытых сонечных праменняў і паліваць часцей. Але заўсёды трэба памятаць, што залішняя вільготнасць зямлі больш шкодна для кактусаў, чым перасыханне яе.

Б. РОЗАЎ.

